// БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№7-8 (230-231)

ліпень-жнівень 2021

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

## У НУМАРЫ:

### За мяжой, але як у Беларусі

Адна з найвялікшых праблем – гэта ўладкаванне дзяцей на навучанне ў іншай краіне. Як правіла, гэта складана: без ведання мовы краіны знаходжання, з рознымі адукацыйнымі праграмамі... Ці можна навучаць дзіця за мяжой, але так, як быццам ў Беларусі? У прынцыпе – можна.

Старонка 8

### За мяжой стварылі аб'яднанне беларускага бізнесу, вымушанага пакінуць краіну

ABBA (Association of Belarusian Business Abroad) будзе спрыяць беларускім бізнесоўцам захаваць і абараніць бізнес для пабудовы фундаменту свабоднай і паспяховай Беларусі, кажуць стваральнікі арганізацыі.

Старонка 15

### Ліквідацыя грамадзянскай супольнасці

Па стане на канец жніўня ўладамі былі ліквідаваныя або знаходзяцца ў працэсе ліквідацыі каля 200 некамерцыйных арганізацый.

Старонка 2

Ва ўмовах пандэміі COVID-19 Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" працягвае сваю працу, але, выконваючы рэкамендацыі СААЗ, у рэжыме самаізаляцыі.

Беражыце і вы сябе таксама!

#будзьмадома



СУДЕБНАЯ ПОВЕСТКА

Верховный Суд Республики Беларусь вызывает Вас в качестве представителя ответчика к 10 ч. 30 мин. «23» 09 2021 года по гражданскому делу по иску Министерства юстиции Республики Беларусь к Международному общественному объединению «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» о ликвидации

По адресу: г. Минск, ул. Орловская, д. 76 (подъезд №1).
Секретарь судебного заседания: Шишко Вероника Евгеньевна
Тел.: (8017)308-25-78

# "БАЦЬКАЎШЧЫНУ" ХОЧУЦЬ ЛІКВІДАВАЦЬ

23 верасня ў Вярхоўным Судзе Рэспублікі Беларусь адбудзецца судовае пасяджэнне па грамадзянскай справе супраць "Бацькаўшчыны".

Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь на позву Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь узбудзіў справу аб ліквідацыі Міжнароднага грамадскага аб'яднання "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Аказваецца, Міністэрства юстыцыі пастанавіла, што ад 15 ліпеня 2021 г. кіруючы і кантрольна-рэвізійны органы МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" з'яўляюцца нелегітымнымі, а 27 ліпеня 2021 г. Міністэрства нават выключыла інфармацыю адносна кіраўніка "Бацькаўшчыны" з Адзінага дзяржаўнага рэгістру юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў. Прычына – перанос VIII З'езду беларусаў свету на наступны год праз абмежаванні, накладзеныя сусветнай каранавіруснай пандэміяй, за які прагаласавала Вялікая Рада ЗБС "Бацькаўшчына".

Пры гэтым рашэнне аб пераносе з'езду прымалася пасля кансультацый з Мін'юстам: якім чынам правесці гэтую працэдуру, каб не парушыць ні заканадаўства, ні Статут. Менавіта Мін'юст пацвердзіў, што Вялікая Рада мае ўсе паўнамоцтвы прыняць такое рашэнне, пасля чаго пытанне пераносу было вынесенае на пісьмовае галасаванне сябрам Вялікай Рады. Нагадаем, што яшчэ раней цягам пазапланавай праверкі Згуртавання, распачатай Мін'юстам у першай дэкадзе ліпеня, арганізацыя атрымала два папярэджанні:

– за не выкладзеную на сайт zbsb.org, але дасланую ў Мін'юст фінансавую справаздачу аб дзейнасці, якую, паводле заканадаўства, пры такіх умовах размяшчаць на сайце і неабавязкова;

– за тое, што ў перыяд з 14 да 22 ліпеня "Бацькаўшчына" не ліквідавала пералік устаноўленых Міністэрствам парушэнняў.

Ліквідацыя парушэнняў не ўяўлялася магчымай праз тое, што ранкам 14 ліпеня на офісе Згуртавання адбыўсяператрус, пасля чаго памяшканне было апячатана Следчым камітэтам. Да гэтага часу невядома, што менавіта было канфіскавана на офісе Згуртавання. 20 жніўня арганізацыя атрымала адказ ад Следчага камітэту, з якога вынікае, што ў дачыненні да Згуртавання распачатая справа "па прыкметах злачынства, прадугледжанага ч. 3 арт. 361 КК".

25 жніўня ў Вярхоўным Судзе Рэспублікі Беларусь адбылася гутарка ўпаўнаважанага прадстаўніка "Бацькаўшчыны" з прадстаўніком Міністэрства юстыцыі ў парадку падрыхтоўкі са судовага разбіральніцтва ў справе аб ліквідацыі Згуртавання.

Абодва бакі агучылі і выслухалі аргументы па кожным пункце высунутых на адрас Згуртавання заўваг, з абодвух бакоў суддзёй былі запатрабаваныя дадатковыя дакументы.

Судовае пасяджэнне па грамадзянскай справе супраць "Бацькаўшчыны" прызначана на 23 верасня.

Мы працягваем змагацца за нашыя правы!

Нагадваем, што МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" было створанае ў 1990 годзе на хвалі нацыянальнага адраджэння і працавала ўсе гэтыя гады, каб кансалідаваць беларусаў у краіне і па-за яе межамі дзеля развіцця Беларусі. Згуртаванне ладзіла мерапрыемствы і акцыі, скіраваныя на ўмацаванне беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці праз выхаванне павагі і паглыбленне ведаў пра родную мову, культуру, гісторыю; паслядоўна выступала ў абарону правоў і інтарэсаў беларусаў замежжа. Менавіта дзякуючы Згуртаванню ў 2014 годзе быў прыняты закон "Аб беларусах замежжа", а з'езды беларусаў свету "Бацькаўшчыны" сталі сапраўднай агульнанацыянальнай платформай для абмеркавання актуальных для Беларусі і яе замежжа пытанняў і праблем.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**




**навіны ЗБС "Бацькаўшчына"**

# БЕЛАРУСКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ ВЫКАЗАЛІ САЛІДАРНАСЦЬ З ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

У Беларусі некалькі тыдняў ідзе беспрэцэндэнтная атака на ўсё беларускае. Кожны дзень даходзяць да нас звесткі аб чарговых ператрусах, арыштах або прысудах па сфабрыкаваных справах. Шмат рэдакцыяў незалежных СМІ і пазаўрадавых арганізацыяў ужо ліквідаваныя. Іншыя стаяць перад такой самай перспектывай.

Мы, ніжэй падпісаныя, выказваем рашучы пратэст супраць рэпрэсій і ліквідацыі такіх заслужаных арганізацыяў, як Праваабарончы цэнтр "Вясна", Беларускі ПЭН-Цэнтр, Таварыства беларускай мовы, Беларуская Асацыяцыя Журналістаў, Саюз беларускіх пісменнікаў. Усе незалежныя пазаўрадавыя арганізацыі, якія ў сваіх статутных мэтах маюць развіццё культуры, беларускай мовы, грамадзянскай супольнасці і незалежных медыяў, маюць права на існаванне.

Цяжка пераацаніць заслугі вышэй названых арганізацыяў, тым не менш нас, беларусаў у Польшчы, непасрэдна закранае перш за ўсё ліквідацыя Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Гэтае Згуртаванне здаўна дзейнічае на карысць беларусаў па-за межамі Беларусі, арганізуе З'езды беларусаў свету, у якіх заўсёды ўдзельнічала шматлікая дэлегацыя з Польшчы. Па ініцыятыве ЗБС "Бацькаўшчына" ў Рэспубліцы Беларусь быў прыняты закон "Аб беларусах замежжа".

Кіраўніцтва "Бацькаўшчыны" заўсёды цікавілася справамі польскіх беларусаў і падтрымлівала нас па меры магчымасцяў. У гэты цяжкі момант прагнем выказаць нашую ўдзячнасць, салідарнасць і веру, што ЗБС "Бацькаўшчына" адродзіцца і надалей будзе працаваць на карысць беларусаў ва ўсім свеце.

**Алег Латышонак, Беларускае Гістарычнае Таварыства**
**Яраслаў Іванюк, Фонд Kamunikat.org**
**Яўген Вапа, Беларускі Саюз у Польшчы**
**Марына Ляшчэўская, Фонд Беларусь 2020**
**Павал Станкэвіч, Фонд Тутака**
**Уршуля Іванюк, Аб'яднанне АБ-БА**
**Тамаш Суліма, Аб'яднанне Беларускіх Журналістаў**
**Марцін Рэмбач, Цэнтр Грамадзянскай Адукацыі Польшча-Беларусь**

# БЕЛАРУСЫ ЗША АДСВЯТКАВАЛІ ЮБІЛЕЙ ГІСТОРЫКА ЯНКІ ЗАПРУДНІКА

Пра ўрачыстае святкаванне паведаміў у Фэйсбуку Вадзім Васільеў.

Слаўны юбілей Янкі Запрудніка ўрачыста адсвяткавала беларуская грамада ў Саўт-Рыверы. Летняя спёка не перавысіла жаданне пабачыцца з юбілярам ды святкаваць разам з ім і сябрамі. На сустрэчы прысутнічалі розныя пакаленні беларускай эміграцыі ЗША. Прыйшоў павіншаваць сябра выбітны навуковец і актывіст беларускай дыяспары ў Амерыцы, у мінулым сябра Прэзідыуму Рады БНР Вітаўт Кіпель.



Янка Запруднік – гісторык і публіцыст, адзін з самых актыўных дзеячоў беларускай дыяспары ў ЗША. Спадар Запруднік належыць да паваеннай хвалі беларускай эміграцыі ў Амерыку, якая дзейнічала найбольш плённа і менавіта дзякуючы ёй амерыканцы сталі ведаць пра Беларусь.

**novychas.by**

# ЛІКВІДАЦЫЯ ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ

У Беларусі ўлады працягваюць ліквідаваць арганізацыі грамадзянскай супольнасці. 30 ліпеня Лукашэнка налічыў 185 «дэструктыўных» няўрадавых арганізацыяў: "У выніку праведзеных мерапрыемстваў выдзелена 185 дэструктыўных структур, якія прадстаўляюць патэнцыйную пагрозу нацыянальнай бяспецы, у тым ліку прадстаўніцтва замежнай некамерцыйнай арганізацыі, 71 рэспубліканскае і мясцовае грамадскае аб'яднанне, 113 установаў".

**Як і на якіх падставах у Беларусі знішчаюць НДА?**

Вялікая "хваля зачысткі" абрынулася на арганізацыі беларускай грамадзянскай супольнасці 22 ліпеня, але некаторыя арганізацыі ліквідавалі яшчэ незадоўга да гэтага.

У махавік рэпрэсій трапляюць недзяржаўныя арганізацыі незалежна ад напрамку і характару дзейнасці. Гэта і культурныя арганізацыі, і асветніцкія, і праваабарончыя, і экалагічныя, і даследчыя, і спажывецкія, і сацыяльныя, і іншыя. Пра знішчэнне арганізацый беларускія ўлады, як правіла, не паведамляюць іх кіраўнікам: аб ліквідацыі яны даведваюцца, праверыўшы статус арганізацыі ў Адзіным дзяржаўным рэестры юрыдычных асоб.

Прэтэнзіяў і пытанняў ва ўладаў да беларускай грамадзянскай супольнасці назбіралася шмат. Раней Аляксандр Лукашэнка заяўляў, што ў Беларусі «актыўна пачалі працу ў дачыненні да розных НКА, НДА». У бок арганізацый гучалі абвінавачванні ў навязванні дэмакратыі, працы ў "дэструктыўных мэтах". Пасля гэтага прайшлі масавыя ператрусы ў арганізацыях і дома ў праваабаронцаў і прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці. Следчы камітэт пасля гэтага заяўляў, што нібыта выявіў дачыненне НДА і СМІ да нявыплаты падаткаў і фінансавання пратэстнай актыўнасці. У пракуратуры адзначылі, што ў іх нібыта «рыхтаваліся і рэалізоўваліся масавыя беспарадкі і экстрэмісцкія праявы ў дачыненні да Беларусі».

Афіцыйна падставамі ліквідацыі арганізацый грамадзянскай супольнасці ўлады называюць:

- дзейнасць арганізацыяў не адказвае мэтам, названым у статуце;
- атрыманне двух папярэджанняў ад Мінюста на працягу года;
- неажыццяўленне прадпрымальніцкай дзейнасці на працягу 24 месяцаў

Па стане на канец жніўня ўладамі былі ліквідаваныя або знаходзяцца ў працэсе ліквідацыі каля 200 некамерцыйных арганізацый, у тым ліку Вярхоўным судом былі пазбаўленыя рэгістрацыі Беларуская асацыяцыя журналістаў, Беларускі ПЭН-цэнтр, "Экадом"; у адносінах да шэрагу грамадскіх арганізацый ідзе працэс пазбаўлення рэгістрацыі.

**Паводле ПЦ "Вясна"**

**Польшча**

# ЗВЫШ 26 ТЫСЯЧ ЗЛОТЫХ САБРАЛІ НА ПОМНІК СВЯТОЙ МАРЫІ ПЕТРУЧУК

Звыш 26 тысяч злотых сабрала ініцыятыва "Наша Памяць" на пабудову помніка святой Марыі Петручук на праваслаўных могілках у Малешах.



Яраслаў Іванюк

Ініцыятары пабудовы помніка збіралі толькі ахвяраванні, кажа старшыня фонду "Камунікат" і сябра Беларускага гістарычнага таварыства і ініцыятывы "Наша памяць" Яраслаў Іванюк:

– Спадзяемся, што да восені гэты помнік будзе ўжо гатовы, і тады трэба будзе думаць пра асвячэнне. Думаю, што таксама ў кансультацыі з праваслаўнай мітраполіяй у Варшаве і асабіста з Мітрапалітам Варшаўскім і ўсёй Польшчы Савам.

Жыхары Падляшша адгукнуліся і даказалі наколькі важная гістарычная памяць:

– Сотням людзей, таксама як і нам, а магчыма і тысячам, важна захаваць памяць пра гэтыя трагічныя падзеі. Каб памятаць пра тое, як гэта было ў сапраўднасці, каб ніхто нам не казаў праз год, два, дзесяць гадоў, што было зусім па-іншаму, не так, як запомнілі гэта жыхары вёсак, якія былі спаленыя, і сем'і гэтых людзей, якія былі забітыя.




Чакаецца, што будаўнічыя працы на могілках у Малешах пачнуцца яшчэ гэтым летам, а да ўгодкаў трагічных падзей у Шпаках (2 лютага) помнік будзе асвечаны. Аўтарам праекта помніка з'яўляецца сусветна вядомы архітэктар, прафесар Юрый Усціновіч.

Нагадаем, 16-ці гадовая Марыя Петручук загінула, бо не паддалася гвалту жаўнераў аддзела польскага антыкамуністычнага падполля пад камандаваннем Рамуальда Райса па мянушцы "Буры" ў лютым 1946 года.

**Валянціна Лаеўская, "Беларускае Радыё Рацыя"**




# БЕЛАСТОЦКІ БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ ВЫКУПІЎ КАЛЕКЦЫЮ ГРАМАФОННЫХ КРУЖЭЛАК

Пра гэта ў сваім фэйсбуку паведаміў Аляксей Трубкін.

Выкупіць калекцыю беларускага грамадскага дзеяча Канстанціна Майсені ўдалося дзякуючы ахвяраванню вядомага беларускага актывіста Алеся Чайчыца.




40 кружэлак 1950-х гадоў, 10 з якіх утрымліваюць беларускія запісы.

Заснавальнік беларускай анлайн-бібліятэкі kamunikat.org Яраслаў Іванюк падтрымаў ініцыятыву і прапанаваў размясціць у ёй запісы пасля алічбавання.

**Паводле facebook.com/alaksej.trubkin**

# ПОЛЬСКІ СУДДЗЯ ПЕРАДАЎ 10 ТЫСЯЧ ЗЛОТЫХ НА ДАПАМОГУ РЭПРЭСІРАВАНЫМ БЕЛАРУСАМ

12 жніўня ў Цэнтры беларускай салідарнасці (ЦБС) у Варшаве адбылася лекцыя вядомага польскага юрыста, суддзі і актыўнага абаронцы правоў чалавека Ігара Тулеі.

Спадар Ігар расказаў пра сваё бачанне ролі мірных пратэстаў у фармаванні грамадзянскай супольнасці і падзяліўся польскім досведам негвалтоўных метадаў барацьбы за свае правы. Беларусы ў сваю чаргу задалі пытанні, якія больш за ўсё іх хвалююць, і расказалі аб бягучай сітуацыі ў нашай краіне больш падрабязна.

Акрамя таго, на сустрэчы было аб'яўлена аб рашэнні Ігара Тулеі перадаць узнагароду, атрыманую ад мэрыі Варшавы (10 тысяч злотых) на карысць рэпрэсаваных беларусаў. Усе перададзеныя сродкі будуць накіраваны на дапамогу двум сем'ям, якія моцна пацярпелі ад пераследу ў Беларусі.

Кіраўніца дэпартаменту прававаой дапамогі ЦБС Вольга Дабравольская падзякавала ад імя нашай арганізацыі за такую падтрымку рэпрэсіраваных і перадала польскаму суддзі памятныя падарункі.

**Паводле Цэнтра беларускай салідарнасці**



**Нідэрланды**

# Беларусы Нідэрландаў: мы працуем на ўсіх франтах, каб дапамагчы, вы толькі там трымайцеся, у Беларусі

Пачаўся грамадскі рух у Нідэрландах гэтак сама стыхійна, як і паўсюль, але раней, чымся ў іншых краінах. Там дыяспара пачала ладзіць мітынгі яшчэ да выбараў. Праўда, досвед гэткіх спраў яны атрымлівалі ў часе правядзення імпрэз.

Мы не даем прозвішчаў героям размовы, каб пазбегнуць пераследу іхных блізкіх у Беларусі.



Беларусы Нідэрландаў. Акцыя салідарнасці з палітвязнямі. Фота з архіву дыяспары

### 50 акцый для Беларусі

Акцыі і мітынгі сталі нагодаю, каб удзельнікі дыяспары перазнаёміліся. Першы раз яны сустрэліся ў чэрвені з нагоды затрымання патэнцыйнага кандыдата на прэзідэнцтва Віктара Бабарыкі.

“Калі мы першы раз сабраліся каля беларускай амбасады, то нават не ведалі, што рабіць. Проста прыйшлі незнаёмыя людзі, былі разгубленыя. Што такое – мітынгаваць? А на мінулым тыдні ў нас адбылася 50-я акцыя. Цяпер ужо людзі ў мегафон прамаўляюць, чытаюць вершы, песні спяваюць, раздаюць улёткі, а тады, у першыя дні, толькі некалькі лозунгаў згадалі”, – дзеліцца ўспамінамі адзін з удзельнікаў і арганізатараў мітынгаў у Нідэрландах Зміцер.

Акцыі ўдзельнікі дыяспары ладзяць разнастайныя: ад пікетаў каля амбасады Беларусі ў Гаазе да дэманстрацый і маршаў з удзелам соцень людзей.

“У верасні было каля 600 чалавек. Прыязджаў народ з Бельгіі, Люксембургу, Нямеччыны. Ладзілі вялікае шэсце”, – згадвае спадар. Паводле яго, на акцыі салідарнасці з палітвязнямі ўдзельнікі чыталі спісы палітвязняў цягам дваццаці хвілін: “Быў вельмі драматычны момант”.

У планах удзельнікаў дыяспары – вялікі марш з нагоды гадавіны паслявыбарчых пратэстаў у Беларусі.

“Мы ставім сабе за мэту падымаць рэзананс тут, сярод мясцовых жыхароў. Бо калі людзі бачаць, што мы пратэстуем, то гэта для іх робіцца больш уласнаю гісторыяй, чым калі б яны пабачылі нешта на тэлебачанні. Па-другое, нам прыемна разам збірацца, гэта вельмі натхняе.

І галоўнае – перадаць падтрыманне тым, хто ў Беларусі, паказаць, што мы не забываем, што нам гэта істотна, што мы ўсе разам рушым да агульнай мэты”, – падкрэсліў Зміцер.

### Народная амбасада

“У Нідэрландах маладая народная амбасада. Мы больш займаемся каардынацыяй паміж людзьмі і краінамі. Гэта пераважна ціск на розныя ўстановы. Мы шукаем кантакты, складаем лісты, каб гэты ціск быў арганізаваны”, – растлумачыў Аляксандр.

Ён адзначыў, што пакуль не можа распавесці пра розныя ініцыятывы, каб не сурочыць і каб не паставіць пад пагрозу ўдзельнікаў.

“Мы працуем і з палітыкамі, і з прэсаю. Пасля сітуацыі з Пратасевічам Беларусь не сыходзіць з парадку дня. Гэта часткова і нашая праца. Мы шмат робім дзеля гэтага”, – адзначыў ён. Напрыклад, яны пісалі лісты ў аэрапорты, каб там змясцілі фота Рамана.

Народная амбасада дамагаецца, каб гарады ў Нідэрландах вывешвалі каля сваіх мэрый бел-чырвона-белыя сцягі.

“Мы працуем на ўсіх франтах. Вы толькі там трымайцеся, у Беларусі, мы вельмі стараемся дапамагчы”, – перадаў Аляксандр.

### Дапамога рэлакантам

Група дапамогі ўцекачам пачала сваю дзейнасць у снежні мінулага года, калі дыяспары ў Польшчы і Літве папрасілі дапамогі ў працы з перасяленцамі.

“Тады былі жорсткія абмежаванні праз кавід, і людзі, якія пакінулі свае дамы, не маглі знайсці сабе ніякіх падпрацовак. Былі закрытыя крамы, і немагчыма было нават зімовую вопратку набыць. А людзі беглі з мінімальнымі рэчамі, з дзецьмі беглі. У нас была адна жанчына, якая прыехала проста з чорным пакункам для смецця, – згадвае ўдзельніца групы Ганна. – Мы шукалі валанцёраў у гарадах, куды прыбывалі ўцекачы, і праз іх знаходзілі канкрэтныя сем’і, якім патрэбная дапамога”.

За паўгода дыяспара адправіла тры вялікія гуманітарныя дапамогі ў Польшчу і Літву, збіралі рэчы першай неабходнасці, адзенне і нават цацкі для дзяцей. “Апошняя нашая дапамога пайшла месяц таму. Дагэтуль людзі распакоўваюць пасылкі, дасылаюць нам падзякі. Вельмі прыемна”, – адзначыла спадарыня.

“Нам прыходзяць запыты, што сям’і трэба тое і тое, тады мы збіраем скрынкі з рэчамі. Таму гэта не толькі адрасная дапамога канкрэтным людзям, але і менавіта тыя рэчы, што ім патрэбныя”, – падкрэсліла ўдзельніца групы Аксана. Падчас збору дапамогі скрынкі запоўнілі амаль усю ейную кватэру.

Да таго ж яны збіраюць прадуктовыя кошыкі для сем’яў, якія пакуль беспрацоўныя, дапамагаюць грашыма. Напрыклад, ім удалося сабраць ахвяраванняў больш як на 6 тысяч еўра праз уласныя сувязі і рахунак у фондзе “BYSOL”. Агулам дыяспара падтрымала 125 чалавек.

Паводле Ганны, дапамагчы беларусам у Беларусі цяпер вельмі складана:

“Бывае, што праз пераводы людзям грошай у Беларусь толькі горш робіцца. Таму мы стараемся дапамагаць нашым суайчыннікам хоць бы так, хоць бы тым, хто таксама ў цяжкім становішчы амаль без нічога ў новым горадзе”.

### Медычная і псіхалагічная дапамога

Валанцёры дыяспары шмат камунікуюць з уцекачамі, і ў пэўны момант яны заўважылі, што рэлакантам патрэбная не толькі фінансавая ці гуманітарная дапамога – шмат у каго моцна пацярпела здароўе.

Першым кейсам медычнай дапамогі сталася сям’я Анатоля і Юліі Сахарук з Пружан. Праз стрэс пры затрыманні мужа Юлія перажыла інсульт, амаль месяц яна праляжала ў рэанімацыі.

“Прыйшоў запыт з Польшчы, і ўдалося арганізаваць добрую рэабілітацыю для Юліі ў Польшчы. Гэта была праца некалькіх дыяспар, мы шукалі дактароў, грошы. Цяпер мы атрымліваем звесткі, што спадарыня ўжо пачала хадзіць. Гэта быў наш першы поспех. І тады мы зразумелі, што такая медычная дапамога таксама патрэбная”, – распавяла Ася. Спачатку Ася не ведала, як пачаць, проста хацела дапамагаць і мела пэўны медычны досвед:

“Ты пачынаеш тэлефанаваць, шукаць людзей, нейкія сувязі. Потым я набралася нахабства і прапанавала зрабіць праект псіхалагічнай дапамогі. Ён нядаўна стартаваў і мае фінансаванне да канца года. Цяпер мы падтрымліваем 20 рэлакантаў і плануем павялічыць гэтую лічбу.

Мы маем планы нават дапамагаць беларусам у Беларусі, каб кожны чалавек, які цяпер дома і адчувае гэтую трывогу, якая можа зламаць, каб ён таксама мог атрымаць дапамогу. Цяпер мы шукаем варыянты, каб наладзіць такія сувязі было бяспечна і для псіхолагаў, і для пацыентаў", – тлумачыць Ася. Яна распавяла, што карысным падтрыманнем стала пляцоўка "еЗдароўе", дзе пацыенты і дактары не бачаць адно аднаго, а кансультацыі адбываюцца ананімна: "Псіхолагі кансультуюць бясплатна, але атрымліваюць грошы за сваю працу. Такім чынам мы падтрымліваем адмыслоўцаў у Беларусі і дапамагаем пацярпелым рэлакантам".




## Арт-івэнты

У Нідэрландах склалася невялікая група мастакоў, што яднае тамтэйшых беларусаў з розных гарадоў. Яны ўжо зрабілі некалькі праектаў і цяпер рыхтуюць дзве выбітныя падзеі. "У верасні мы будзем ладзіць дыскусію з беларускімі дзеячамі і даследчыкамі з Нідэрландаў, – паведаміла адна з арганізатарак падзеі мастачка Алена. – Мы абмяркуем жаночую рэвалюцыю, ужо запрасілі знаўцу гэтай тэмы Вольгу Шпарагу".

З нагоды дыскусіі плануюць перформанс. Алена абрала для свайго твору біблійную "Песню песняў", пераклала яе на беларускую мову.

Да таго ж беларусы Нідэрландаў рыхтуюць дыджытал-архіў пратэсных падзей у Беларусі і за яе межамі.

"Мы плануем зрабіць прэзентацыю архіву 15 верасня. Там будзе ўся інфармацыя пра падзеі, і яе можна будзе выкарыстоўваць для даследаванняў", – адзначыла Алена. А летам 7 жніўня ў Гаазе адкрыюць вялікую выставу беларускіх мастакоў.

"У нас былі вельмі амбітныя планы. Мы хацелі прывезці сюды беларускіх мастакоў, каб іх трошкі падтрымаць, каб стварыць ім пазітыўны досвед. Але цяпер гэта даволі складана. Аднак мы будзем глядзець, наколькі складана прывезці арыгінальныя працы з Беларусі ды іхных аўтараў. Тэма – пратэснае мастацтва, але ў больш шырокім сэнсе, чым падзеі мінулага года. Бо людзі рабілі перформансы і ў 2001 годзе. То ўжо даволі вялікая гісторыя пратэснага мастацтва", – адзначыла суарганізатарка.

## Купалле і беларуская чытанка

На фоне моцнага ўдзелу дыяспары ў справах сваёй роднай краіны ў людзей з'явілася большая цікавасць да беларускае культуры. Так, на ўзбярэжжы Паўночнага мора плануюць зладзіць Купалле з песнямі, карагодамі і вогнішчам.

Тамтэйшыя беларусы трохі іранізуюць з таго, што яны пачаткоўцы: "У нас такі моўны ўзровень: гавару не очэнь, але очэнь хачу".

Суарганізатарка культурных імпрэз Алена адзначыла, што ў празе да беларускага слова людзей не спыняюць ні лакдаўны, ні адлегласці:

"Пакуль былі каранцінныя захады, мы збіраліся толькі анлайн. Паступова з'яўляліся праекты. Цяпер раз на два тыдні адбываюцца лекцыі пра гісторыю Беларусі ў асобах, напрыканцы мы ў квізе спаборнічаем за нейкі прыз. Вельмі цікава. Яшчэ ёсць чытанка. Не толькі для дзяцей. Апошнім мы бралі "Радзіва "Прудок"". Чытаем у ролях, разбіраем цікавыя словы. Намагаемся аднавіць нашую мову, бо яна, на жаль, тут траціцца".

Для дзяцей удзельнікі дыяспары прыдумалі праз "Зум" і касцюмаваных персанажаў, распавядаць пра беларускіх нячысцікаў.

"Гэта і дарослым цікава, але дзецям – асаблівā. Дзеці, якія тут выраслі, яны ўжо ў галандскай культуры, іхная першая мова – галандская. А так у форме гульні яны пачынаюць вывучаць беларускую. Гэта нельга назваць паўнавартаснаю школаю, але гэта пачатак вывучэння і мовы, і фальклору", – адзначыла Алена.

Алена распавяла, што цяпер яны вельмі хвалююцца перад сваёй першай афлайнавай імпрэзаю – Купаллем 3 ліпеня, бо на яго плануюць прыехаць больш за 100 чалавек, не толькі з Нідэрландаў:

"Будзем намагацца, каб на ўзбярэжжы было вогнішча, каб вянкі плялі, будзем песні спяваць. Калі мы зрабілі абвестку пра такое свята, то не разлічвалі, што адгукнецца настолькі шмат людзей.

Мы ўсе жывем беларускаю тэмаю, яна ўсім нам баліць. І вось упершыню за год мы пастанавілі сабрацца на культурную імпрэзу, што аб'яднае нас не толькі агульным болем, але і нашымі агульнымі каранямі і спадчынаю".

У суполкі "Сядзіба" вялікія планы на аднаўленне беларускае культуры ў дыяспары, таму хутка мы пачуем пра іхныя новыя праекты.

**МГМ, belsat.eu**



Аўстрыя

# Беларусы Аўстрыі: КАЛІ Б МЫ НІЧОГА НЕ ЗРАБІЛІ, ТО НЕ ДАРАВАЛІ Б САБЕ

Перадвыбарчыя падзеі і гвалт пасля 9 жніўня 2020 года запусцілі надзвычайныя працэсы не толькі ў Беларусі. Ва ўсім свеце пачалі арганізоўвацца новыя і актывізавацца старыя супольнасці. Мы пагутарылі з беларусамі Аўстрыі пра тое, як яны не даюць палёгкі аўстрыйскаму ўраду і трымаюць сваю радзіму на парадку працы тамтэйшых СМІ.




Удзельнікі нашай размовы маюць сваякоў і родных у Беларусі, таму, каб пазбегнуць ціску на іх і праследу, мы не агучваем прозвішчы актывістаў.

**Вольга: Я восем гадоў пражыла ў Аўстрыі і нікога не ведала**

Для Вольгі гісторыя яднання з супольнасцю пачалася яшчэ ў траўні, калі перадвыбарчыя падзеі на радзіме пачалі ўжо віраваць сур'ёзна.

"У траўні пачаліся тут нейкія першыя званочкі, а ў ліпені, роўна год таму, мы ўсе нарэшце сустрэліся. Я далучылася да супольнасці, знайшла нашых беларусаў у Аўстрыі. Восем гадоў пражыла тут і не ведала зусім нікога. Увогуле думала, што я тут – адна беларуска і больш нікога няма. Тады гэта былі такія жудасныя эмоцыі, што немагчыма перадаць словамі. Жыццё спынілася, парвалася – проста камок стрэсу і жаху. Калі я знайшла беларусаў, то адразу ўключылася ў працэс", – згадвае спадарыня Вольга.

Яна мяркуе, што для беларусаў Аўстрыі акцыі – гэта іхны канёк. За год яны зладзілі больш за 30 пікетаў, мітынгаў, перформансаў і выстаў. Мінулым летам і восенню яны збіраліся кожныя выходныя і вельмі стараліся на рыхтаваліся да кожнага выхаду. Акрамя таго, супольнасць звярталася ў міжнародныя ўстановы:

"Мы пісалі лісты ці петыцыі ў ААН, АБСЕ, Amnesty International, усім уладам Аўстрыі, у Еўрапарламент, у прынцыпе, ва ўсе ўстановы, якія хоць неяк маглі паўплываць на падзеі ў Беларусі. Мы актыўна супрацоўнічалі з BySol, калі ішлі перамовы наконт Алімпіяды. Падпісваліся ўсе, акцыі праходзілі вельмі яскрава, эмацыйна і прываблівалі шмат увагі".

Вольга падкрэсліла, што былі розныя сітуацыі, але пераважна мінакі выказвалі спачуванне ці ўключаліся ў працэс. На акцыі салідарнасці з беларускімі жанчынамі адбылася шчымлівая гісторыя:

"Аднойчы да нас падышла жанчына, такая імпазантная, прыгожая. І казала, што ведае нас, ведае беларускіх жанчын, што гатовая падпісаць усё, што мы ёй дамо падпісаць, што яна нас любіць і яна за нас. Гэта было так сентыментальна. Маладыя дзяўчаты з Расіі рыдалі на нашых акцыях, казалі, што хацелі б, каб у іх так было, але гэта вельмі складана".

Аўстрыйская суполка зладзіла экзітпол на выбарах у пасольстве. Да гэтай падзеі таксама сур'ёзна рыхтаваліся.

"Усе прыходзілі да пасольства з бранзалетамі, у нашай "уніформе" чырвона-белай. Паказвалі назіральнікам свае галасы. Паводле чутак ведаем, што працаўнікі пасольства калаціліся ад страху, не ведалі, што з намі рабіць. Мы дзяжурылі пад пасольствам да 12-й гадзіны ночы і нам вывесілі вынікі, паводле якіх перамагла Ціханоўская. Лічбы ў пратаколе не сышліся з дадзенымі незалежных назіральнікаў, але ўсё адно гэта была неймаверная радасць", – згадвае Вольга.

Яна распавяла, што беларуская суполка намагалася максімальна дапамагчы студэнтам, але праз тое, што ў Аўстрыі асноўная мова нямецкая і ў прынцыпе краіна дарагая, атрымалася перавезці лічаных людзей: "Мы гатовыя былі аддаць ім усе свае рэсурсы, толькі б дапамагчы, але людзі пераважна ехалі ў краіны з англійскай мовай, або туды, дзе давалі гранты і спрашчалі ўмовы на атрыманне адукацыі".

Удзельнікі суполкі ладзілі падарункі для дзетак уцекачоў у Польшчы і Літве.

"Гэта была такая падзея, як мы ўзгаднялі, набывалі, запакоўвалі рэчы і цацкі. Таксама мы дапамагалі рэла-




Акцыі беларускай дыяспары ў Аўстрыі. Фота прадстаўлена рэдакцыі "Белсату"

кантам, бралі пад патранаж горад Лодзь, там шмат нашых, і розныя ўстановы і людзі складаліся, каб фінансава падтрымаць рэлакантаў. Яшчэ мы дапамагаем валанцёрам, бо да іх звяртаюцца людзі ў цяжкім стане і ім самім таксама патрэбны клопат. І мы былі б радыя сустрэцца з рэлакантамі, зладзіць летнік для дзетак, каб яны маглі прыехаць і выдыхнуць", – падкрэсліла актывістка.

Яна папрасіла перадаць землякам у краіне, што суполка будзе працягваць змагацца:

"У нас рукі не апусцяцца і мы будзем рабіць усё магчымае. Мы з вамі да канца, да перамогі".

### Міхась: Беларускай тусоўкі тут не было ніколі

Спадар Міхась у Аўстрыі жыве даўно. Ён адзначыў, што беларуская суполка там зусім маладая, а згуртавала людзей супольнае гора:

"Беларускай тусоўкі тут не было ніколі. Як творчы чалавек я ўвесь час задаваўся пытаннем, чаго беларусам не стае. А мінулым летам мне пазваніў сябра і сказаў, што калі мы зараз нічога не зробім, то потым сабе гэтага не даруем", – згадвае Міхась.

Яны не ведалі тады, як арганізоўваць і ладзіць акцыі, але праз кароткі час ужо збіралі багата людзей.

"Нас было чатыры асобы: нехта займаўся юрыдычнай арганізацыяй імпрэзы, нехта – сацсеткамі, нехта – графікай і плакатамі, нехта выбудоўваў кантакты з прэсай і палітыкамі. 27 чэрвеня адбылася першая і самая шматлікая акцыя ў Аўстрыі за час існавання незалежнай Беларусі", – распавёў Міхась.

Потым быў экзітпол, які перарос у супольнасць "Беларусы замежжа", з'явіліся адмысловыя групы па супрацы з палітыкамі, СМІ і іншыя, бо да суполкі далучалася ўсё больш людзей з рознымі экспертнымі ведамі.

Міхась адзначыў, што стварэнне беларускай суполкі не заўжды ідзе лёгка і ў людзей адбываюцца непаразуменні: "Але працэс ідзе і мы дасягнулі бачных поспехаў, якія ўзмацняюцца штомесяц. І змаганне працягваецца".

### Яўген: "Ёсць і псіхалагічная падтрымка для беларусаў у Беларусі"

Спадар Яўген актыўна ўдзельнічае ў праектах медычнай рэабілітацыі ўцекачоў. Ён распавёў, што агульнымі высілкамі пацярпелыя ад рэпрэсій беларусы могуць атрымаць дапамогу: "Нашыя хлопцы – беларусы Аўстрыі – бралі актыўны ўдзел у стварэнні праекту "еЗдароўе". Праект пачаў буйна развівацца апошнім часам і была праведзеная вялікая праца з клінікамі тут у Аўстрыі, каб дапамога была спонсарскай і бясплатнай для пацярпелых. Адно што Аўстрыя – гэта не першая краіна, куды трапляюць уцекачы. У асноўным людзі застаюцца ў Польшчы і Чэхіі. Але некалькі чалавек ёсць тут, каму даецца дапамога", – распавёў актывіст.

Са слоў Яўгена, таксама ў межах гэтага праекту ёсць псіхалагічная дапамога для людзей у Беларусі і за яе межамі.

"Праз тое, што праект анлайнавы, тутэйшыя аўстрыйскія лекары дапамагаюць людзям у Чэхіі і іншых краінах, ці кансультуюць медыкаў з Польшчы і Літвы", – падкрэсліў спадар.

Ён адзначыў, што беларусы Аўстрыі дапамагаюць суайчыннікам не толькі ў межах вялікіх праектаў, а і з прыватнай ініцыятывы:

"Незалежна ад таго, як грамадская праца ідзе, шмат хто дапамагае ўцекачам наўпрост, кансультуе і падтрымлівае. Большасць людзей адчувае сваё дачыненне да цяперашняй сітуацыі, яны любяць сваю родную краіну, хвалююцца за сваіх знаёмых і сяброў".

### Юлія: "Я паказвала БЧБ-пасцілу і людзі не верылі, што за гэта садзяць у турму"

Спадарыня Юлія распавяла, што пасля 9 жніўня мінулага году актывісты сталі шукаць выхады на палітыкаў: "Даволі хутка атрымалася выйсці на тых, хто адказвае за правы чалавека. Мы цяпер у кантакце са спікерамі чатырох асноўных палітычных партый – яны на жывой сувязі і заўжды падтрымліваюць, калі ёсць нейкае пытанне. Калі ў Менску пасадзілі самалёт з Пратасевічам, беларусы яшчэ самі асэнсоўвалі, што адбылося, а аўстрыйскія палітыкі нам пісалі, што ўжо зарэгістравалі акцыю. Палітычныя дзеячы, віцэ-мэр, амбасадары, грамадскія дзеячы – яны стаялі ў чарзе да мікрафонаў, каб выказаць сваю пазіцыю. Я такога ніколі не бачыла", – распавяла актывістка.

Тамтэйшыя беларусы вельмі аператыўна рэагуюць на ўсе падзеі. Калі Аўстрыя збіралася заблакаваць чацвёрты пакет санкцый супраць рэжыму Лукашэнкі, Народная амбасада тут жа зладзіла незвычайны мітынг.

"Увечары з'явілася інфармацыя, што ў санкцыях Аўстрыя цісне на тормаз. А тут забаронена ладзіць незарэгістраваныя акцыі. Прынцып заяўны, то бок не могуць не даць дазволу, але трэба два дні на рэгістрацыю. Тады мы вырашылі ладзіць адзіночны пікет. За ноч малюем плакаты і ў 8:30 першыя дзве асобы сталі каля Міністэрства замежных спраў", – згадала Юлія.

У той дзень беларусы змянялі адно аднаго кожную гадзіну і працягвалі свой пікет 10 гадзін! Палітыкі прыязна рэагавалі на гэтую акцыю, падтрымлівалі ўдзельнікаў і казалі, што падзяляюць іх заклапочанасць. А пятай гадзіне аўстрыйскі ўрад заявіў, што не будзе замінаць увядзенню санкцый.

Яшчэ выбітнай падзеяю для аўстрыйцаў стаў мітынг, на які Юлія прынесла мех белай пасцілы з чырвонай палоскай пасярэдзіне. Яна паказвала і раздавала мінакам прысмакі, а потым тлумачыла, што ў Беларусі нават за такое можна атрымаць штраф ці арышт:

"Людзі проста не маглі паверыць, што за пасцілу можа быць пакаранне. Па пасцілу падыходзілі палітыкі, выкладалі з ёй фота. Яны глыбока прасякаліся гісторыяй, пра гэта і ў медыях пісалі пасля. Бо атрымалася на відавочнай рэчы паказаць аўстрыйцам, наколькі страшныя падзеі адбываюцца ў Беларусі".

Актывісты кожны месяц рыхтуюць дайджэст падзей у Беларусі паводле звестак праваабарончага цэнтру "Вясна" і дасылаюць інфармацыю палітыкам і прэсе, каб беларускае пытанне не заціхала.

"Акрамя таго, Народная амбасада працуе над аб'яднаннем беларусаў. У нас з'явіўся свой хор "Сольныя гукі". Падчас лакдаўну тут не забаранялі палітычных акцый і наведвання храмаў. І вось у найпрыгажэйшай каляднай Вене нам дазволілі пасяваць у касцёле, уключылі ялінкі, і мы заспявалі "Ціхую ноч" і "Магутны Божа". Гэта было чароўна. Яшчэ мы ўдзельнічалі ў танцавальным чэленджы і зрабілі мабільную выставу пратэсных малюнкаў", – пералічвае толькі частку дасягненняў супольнасці Юлія.

Да гэтага ў Вене прайшла выстава аб стачачным руху ў Беларусі, значнымі падзеямі стаў пачатак пракату фільму "Кураж" і сустрэча з літаратарамі Альгердам Бахарэвічам і Юліяй Цімафеевай. Возьме суполка ўдзел і ў Тыдні культуры Беларусі: будзе прэзентацыя беларускіх арнаментаў, выяўленчага мастацтва ды іншых цікавостак.

"Мы паказваем і распавядаем усім, якія беларусы цікавыя людзі, колькі ў іх ёсць багацця. Мы робім падзеі, імпрэзы, паўдзельнічалі ў марафоне. Робім усё, каб Беларусь не знікала з парадку дня і каб пра яе працягвалі гаварыць", – адзначыла Юлія.

**ГМ, "Белсат"**



адукацыя

# ЗА МЯЖОЙ, АЛЕ ЯК У БЕЛАРУСІ

Не сакрэт, што Беларусь праз палітычны крызіс і шалёны гвалт з боку ўлады сутыкаецца і з крызісам гуманітарным. Людзі з'язджаюць, кідаючы амаль усё, забіраюць з сабою толькі самае дарагое. І ў пералік гэтага "самага дарагога", безумоўна, уваходзяць дзеці.

Адна з найвялікшых праблем – гэта ўладкаванне дзяцей на навучанне ў іншай краіне. Як правіла, гэта складана: без ведання мовы краіны знаходжання, з рознымі адукацыйнымі праграмамі… Для тых, хто з'язджае з планамі "надоўга" ці "назаўжды", усё зразумела: забіраеце дакументы са школы і ўладкоўваецеся на новым месцы жыхарства, праходзіце моўныя курсы, аддаяце дзіця ў мясцовую школу… Але шмат хто спадзяецца і верыць, што ў хуткім часе ён вернецца ў новую Беларусь. І вось тут ужо – сітуацыя для развагі.

Ці можна навучаць дзіця за мяжой, але так, як быццам у Беларусі? У прынцыпе – можна.

## Праблема тэрміналогіі

Шмат хто тэлефануе ці прыходзіць у школу і просіць перавесці сваё дзіцё на "хатняе навучанне" – і адразу робіць памылку. У школе абсалютна слушна кажуць: "У нас няма хатняга навучання". Па тэрміналогіі ў нас сапраўды няма хатняга навучання, сямейнага навучання, хатняй адукацыі, дыстанцыйнага навучання і ўсяго такога іншага, і кіраўнікі школ карыстаюцца гэтым, каб адмовіць бацькам у ненаведванні дзіцём школы.

У 2006 годзе ў нас быў перапісаны закон аб адукацыі, з якога быў выключаны артыкул "Аб навучанні ў сям'і". Замест гэтага закона ў 2011 годзе ў нас з'явіўся Кодэкс аб адукацыі. І артыкул 167 гэтага Кодэкса прадугледжвае такую форму навучання, як індывідуальны навучальны план.

Калі вы прыходзіце ў школу, вы просіце перавесці дзіцё не на "хатняе навучанне", а на "індывідуальны навучальны план". І гэта насамрэч важна.

Магчымасці для атрымання індывідуальнага навучальнага плана даволі шырокія. У кодэксе сказана, што "індывідуальны навучальны план устанаўлівае асаблівасці атрымання агульнай сярэдняй адукацыі адоранымі і таленавітымі навучэнцамі, а таксама навучэнцамі, якія па паважлівых прычынах не могуць пастаянна або часова наведваць навучальныя заняткі і (або) праходзяць ва ўстаноўленыя тэрміны атэстацыю".

Спісу "паважлівых прычын", як такога, няма ні ў адным дакуменце. Але традыцыйна гэта – сямейныя абставіны. Напрыклад, у няпоўнай сям'і ёсць малы, і маці ці тата не можа забіраць старэйшае дзіця са школы. Або дзіця, чые бацькі развяліся, спачатку жыве з маці ў адным горадзе, потым – з татам у іншым. Можа быць прычынай праца бацькоў, звязаная з частымі камандзіроўкамі, таму яны не могуць своечасова прыводзіць дзіця на заняткі і забіраць яго са школы. Ну і, канешне, можна проста спаслацца на слабае здароўе дзіцяці і эпідэмію COVID-19.

Заява пішацца ў адвольнай форме. Для пераходу на індывідуальны план навучання непатрэбная медычная даведка. Яна патрэбная для надомнага навучання па медыцынскіх паказаннях.

Тэарэтычна вы можаце абраць перыяд, на працягу якога вы хочаце, каб дзіця было на "індывідуальным плане", а па-факце – на хатнім навучанні. Напрыклад, чвэрць, паўгоддзе або ўвесь навучальны год. Па заканчэнні пэўнага перыяду (альбо па чвэрцях ці за паўгоддзе) вашаму дзіцяці прыйдзецца здаваць тэсты альбо іспыты, альбо сумоўе – то-бок, вучыцца прыйдзецца так ці інакш. Пры гэтым дзіця, якое перайшло на індывідуальны план навучання, застанецца вучнем канкрэтнага класа і школы. Але самае галоўнае – працягне засвойваць школьную праграму.

Рашэнне пра перавод вашага дзіця на індывідуальны навучальны план прымаецца на педсавеце і замацоўваецца дырэктарам школы. Як правіла, праблем з педсаветам не ўзнікае: пры сучаснай перагружанасці класаў настаўнікі падтрымаюць вашае імкненне палегчыць ім працу на адно дзіця. Але школа можа звярнуцца ў РАНА або ГарАНА, каб тыя вызначылі парадак атэстацыі (ён таксама дэталёва не прапісаны), могуць паглядзець на "умовы, у якіх выхоўваецца дзіця" (як яны на гэта будуць глядзець, калі дзіця за мяжою – пытанне).

Калі школа раптам адмовіць у пераводзе на індывідуальны навучальны план – патрабуйце абгрунтаванай пісьмовай адмовы. Яе можна будзе абскардзіць у тым жа РАНА або ГарАНА.

Карацей, можа быць, прыйдзецца пабегаць. Але, калі ў вас добрыя адносіны са школай, з класным кіраўніком, з завучам, з дырэктарам – праблем, як правіла, не ўзнікае.

І яшчэ трэба ведаць: лепш падаць заяву на індывідуальны навучальны план да 31 жніўня, перад пачаткам новага навучальнага года. Але гэта – неабавязковая ўмова. На індывідуальны навучальны план можна перавесці дзіця ў любы момант.



## Дорага-багата

У прынцыпе, можна навучацца па беларускай школьнай праграме і за мяжой. Канешне, наш міністр адукацыі абяцаў запуск нацыянальнай платформы для дыстанцыйнага навучання ўвесну 2020-га, увосень 2020-га, увесну 2021-га, але яе ўсё няма і няма. Абяцанага, як кажуць, тры гады чакаюць, але прыватная ініцыятыва, як заўсёды, – рухавік прагрэсу.

Пасля ўсплёску пандэміі COVID-19 прыватныя навучальныя ўстановы пачалі распрацоўваць курсы анлайн-навучання. І ў іх, збольшага, атрымалася. Пакуль іх не вельмі багата, і на пошук "анлайн-навучанне Беларусь" збольшага выдаюцца ўніверсітэцкія курсы. Але і школы таксама ёсць. Напрыклад, установа адукацыі "Сярэдняя школа Прайм" пазіцыянуе сабе як "першая анлайн-школа" ў Беларусі. Аж да таго, што на сайце напісана: "Неабходнасці ў пераводзе дзіцяці на індывідуальны план больш няма. Мы прымаем вучня да нас, вядзем асабістую справу, выстаўляем адзнакі і даем сапраўды якасныя і сучасныя веды".

Таксама "першай анлайн-школай у Беларусі для вучняў 5-11 класаў" называе сябе "Мужчынская гімназія для хлопчыкаў і дзяўчынак". Нягледзячы на парадаксальную назву, на сайце сцвярджаецца, што выкладанне вядзецца па зацверджанай Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь праграме. Прыватная ўстанова адукацыі "Сярэдняя школа Стэмбрыдж" не пазіцыянуе сябе як "першая". Але адукацыя там ажыццяўляецца па нацыянальнай школьнай праграме. Наколькі можна зразумець з сайта, адукацыя вядзецца не праз звыклы нам Zoom, а праз Google classroom. Прыватная школа SMART school прапануе анлайн-заняткі для дзяцей з 1 па 11 клас. Праграма школы таксама базуецца на дзяржаўнай праграме адукацыі і дадатковых актыўнасцях, накіраваных на творчае, тэхнічнае і інтэлектуальнае развіццё дзіцяці. Прынамсі, так пазначана на іх сайце. Абсалютна ўсе прадметы школьнай праграмы можна вывучаць дыстанцыйна.

Цікавы праект "Нешкола". Ён паўстаў з таго, што дзве маці на фоне эпідэміялагічнай абстаноўкі ў 2020-м пачалі разбірацца ў анлайн-навучанні і прыдумалі "Нешколу". І раптам да іх паваліў народ – не толькі вучні, але і настаўнікі. Заняткі вядуцца паралельна школьнай праграме – гэта значыць, Вам патрабуецца індывідуальны навучальны план. "Нешкола" працуе ў партнёрстве з вышэйпрыведзенай SMART school, і таму ёсць магчымасць проста перавесціся ў SMART.

І тут ёсць два пытанні, якія трэба высветліць у кіраўніцтва анлайн-школы. Збольшага ўсе школы маюць пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі. Але, каб выдаваць атэстаты дзяржаўнага ўзору (9-11 класы), школа павінна мець акрэдытацыю Міністэрства адукацыі. Такую акрэдытацыю маюць далёка не ўсе, бо анлайн-адукацыя – справа адносна новая, а акрэдытацыя выдаецца, як правіла, пасля трох гадоў паспяховай працы прыватнай школы. І другое пытанне – канешне ж, грошы. Кошты навучання часам залежаць ад абраных прадметаў, але ў асноўным складаюць ад 350 да 650 беларускіх рублёў у месяц. У сярэднім трэба арыентавацца на 500 рублёў на месяц – $200 па сённяшнім курсе. Для тых, хто з'ехаў за мяжу вымушана, гэта істотныя грошы. Таму варта шукаць іншыя варыянты.

Аліна Бялова, budzma.by

навіны

# ЯК ФОНД "РАЗАМ" ДАПАМАГАЕ І АБ'ЯДНОЎВАЕ БЕЛАРУСАЎ У ЛІТВЕ

Кніжны клуб, баявыя адзінаборствы, урокі літоўскай мовы і гітары. Што робяць беларусы ў Літве, каб падтрымаць адзін аднаго.

Мэрыя Вільні адвяла будынак на адной з цэнтральных вуліц горада пад Дом беларускай культуры, у якім будзе размяшчацца і Беларускі музей імя Івана Луцкевіча. Некалькі некамерцыйных арганізацый, якія займаюцца дапамогай беларусам у Літве, заключылі дамову з музеем і ўвайшлі ў склад сузаснавальнікаў Дома.

За пару месяцаў валанцёры фонду разам з рэлакантамі зрабілі рамонт, прывялі будынак у парадак і распачалі актыўнасці. Ідэя праекту "Ты не адзін" з'явілася таму, што шмат беларусаў, якія пераехалі, цяпер знаходзяцца ў цяжкім псіхалагічным стане і маюць патрэбу ў адаптацыі.

### "Сустрэчы паступова сталі псіхалагічнай тэрапіяй"

"Ідэя праекта нарадзілася выпадкова, калі ў чаце "Беларусы Вільні" адна дзяўчына напісала: "Дзяўчаткі, а давайце мы як-небудзь зробім жаночы сняданак". Яна стварыла групу, нават не ведаючы, што на гэта ўжо ёсць пляцоўка, хоць мы ў ёй яшчэ заканчвалі рамонт, цягалі мэблю. Я напісала, што ў нас ёсць месца, дзе сабрацца. І цяпер кожную суботу аб 11 раніцы ў нас праходзяць "Жаночыя сняданкі"", – тлумачыць валанцёрка фонду "Разам" Віялета.

"Жанчыны па суботах на тры гадзіны адпачываюць ад дзяцей, мужоў, – дадае яшчэ адна валанцёрка Вольга. – Першы раз падчас знаёмства, вядома, было шмат тэм. Кшталту, з якой прычыны выехалі, у каго што здарылася і чым займаліся. Паступова гэта стала такой псіхалагічнай тэрапіяй, каб адаптавацца трошкі і ачомацца пасля ўсіх падзей".

На першым сняданку выявілася вельмі шмат таленавітых людзей, якія хочуць падзяліцца сваімі ведамі, кажа Віялета. Такім чынам, кожны "Жаночы сняданак" праходзіць са спікерамі і мае адмысловую тэматыку. На адным са сняданкаў выступала беларуская пісьменніца Ганна Златкоўская са сваёй новай кнігай "Паляванне на матылькоў", а таксама дзяўчына, якая мела на радзіме ўласны чайны клуб, яна правяла чайную цырымонію.

"Праз гэта мы таксама прыдумалі кожную пятніцу рабіць вечар з гарбатай, музыкай, размовамі і медытацыяй. Мінулы сняданак быў з дзяўчынай, у якой быў свой праект у Беларусі "Душа бataніка", яна ўсё



Заняткі літоўскай мовы. Фота з прыватнага архіву фонду "Разам"

ведае пра расліны і хоча падзяліцца ведамі пра тое, як даглядаць кветкі. Адна з удзельніц расказала пра сваю кветку, якую яна назвала Ромка, бо купіла ў дзень гібелі Рамана Бандарэнкі і цяпер яна пачала чэзнуць і дзяўчына сказала: "Гэта будзе катастрофа, калі яна загіне, я другі раз буду перажываць смерць Ромкі". І мы зразумелі, што гэта нашмат больш, чым проста догляд раслін, гэта кветкавая тэрапія, якая псіхалагічна дапаможа жанчынам і дзяўчатам справіцца з болем праз кветкі, якія ў іх ёсць", – кажа Віялета.

Неўзабаве да каманды фонду далучыцца псіхолаг, якая працавала з людзьмі, што прайшлі праз турму і катаванні ў Беларусі.

"Мы запускаем два віды псіхалагічнай дапамогі: трохмесячны групавы трэнінг і індывідуальныя кансультацыі. Мы не сталі абмяжоўваць псіхалагічную дапамогу толькі катэгорыяй пацярпелых на пратэстах. Пасля ўцёкаў ад жахаў у Беларусі, людзі сутыкнуліся з праблемамі адаптацыі і інтэграцыі. І гэта сур'ёзна, таму мы яшчэ запускаем сямейныя кансультацыі і таксама для дзетак, бо яны апынуліся вымушанымі сведкамі падзей і пакутавалі маральна".

### "Хочам зрабіць яшчэ заняткі кунфу і ўшу"

Таксама ў Доме беларускай культуры праходзяць бясплатныя заняткі літоўскай мовы два разы на тыдзень і курсы акадэмічнага рысунку.

"Выкладчыца рысунку мастачка Раса Рымідзіце вельмі перажывае ўсю гісторыю, звязаную з беларусамі і Беларуссю. Яе таксама пераследавалі ў Савецкім Саюзе за нязгоду з афіцыйнай пазіцыяй улады і маглі пасадзіць у турму. Яна дапамагае нам і праводзіць урокі бясплатна. Заняткі рысаваннем супакойваюць і даюць пазбавіцца ад успамінаў, бо жыццё перавярнулася ва ўсіх: тых, хто прыехаў, і тых, хто жыў тут і цяпер аказвае дапамогу. Мы ўсё гэта робім бясплатна, як валанцёры", – кажа Віялета.

Заняткі праходзяць у выставачнай галерэі Дома беларускай культуры. На рысаванні няма абмежаванняў і можа прыйсці кожны ахвочы любога ўзросту.

"Таксама мы ўжо два месяцы на світанку займаемся цыгунам. Яго праводзіць майстар, які меў у Менску школу баявых мастацтваў і вымушаны быў пераехаць. Цяпер мы хочам зрабіць яшчэ заняткі кунфу і ўшу, бо дзяўчаты нашы сказалі: "Цыгун – гэта добра, вядома, але навучыце нас біцца". Заняткі будуць для дзяцей і дарослых".

Неўзабаве фонд плануе адкрыць кніжны клуб і тэатральны гурток, запусціць курс па 2D-анімацыі, ладзіць музычныя вечарыны ў двары. А з верасня будзе працаваць нядзельны беларускамоўны рэпетыцыйны цэнтр для школьнікаў.

"Актыўнасцямі ў праекце "Ты не адзін" мы хочам аб'яднаць людзей, – кажуць валанцёркі. – Любы чалавек ці ініцыятыва, якім трэба прастора, могуць звязацца, узгадніць з намі час, прыйсці і свабодна выкарыстоўваць памяшканні Дома пад свае праекты. Але пры адной умове: калі гэтыя праекты добрыя і накіраваныя на дапамогу беларусам".

Цяпер Дому беларускай культуры патрэбна матэрыяльная падтрымка, бо ўсе актыўнасці праходзяць бясплатна.

"Нам вельмі патрэбны прынтар, алоўкі, папера, мальберты для заняткаў рысункам, падручнікі літоўскай мовы, музычныя інструменты – гэта было б вельмі крута, – расказваюць прадстаўніцы фонду. – Таксама кава, гарбата, якімі мы частуем наведнікаў. Шукаем і людзей, якія ўмеюць пісаць, весці сацыяльныя сеткі. Дапамога патрэбна ва ўсім".

### Пра фонд "Разам"

Фонд "Разам", які дапамог шматлікім беларусам, паўстаў у канцы жніўня 2020 года. Арганізацыя зарэгістраваная, ейны юрыдычны статус дапамагае кантактаваць з літоўскімі ўладамі, каб вырашаць шырокі спектр пытанняў: пошук працы, уладкаванне дзетак у садкі і школы. Фонд дапамагае аплаціць рэлакантам жытло, купіць прадукты, здабыць вопратку і бытавую тэхніку для тых, хто прыехаў зусім без рэчаў.

Валанцёры фонду размяшчаюць гісторыі людзей і розных ініцыятыў на старонках у Facebook і Instagram, а таксама на сваёй адмысловай платформе Get Donate, дзе можна ахвяраваць сродкі.

Арганізацыя дапамагае вырашаць бытавыя, сацыяльныя праблемы, пытанні з дакументамі і легалізацыяй на тэрыторыі Літвы, таксама тут кансультуюць людзей, якія яшчэ знаходзяцца ў Беларусі, як бяспечна выехаць.

Таксама фонд арганізаваў для 45 беларускіх дзетак адпачынак у летніку на Балтыйскім моры.

"Асноўны сэнс Дома беларускай культуры, каб ён быў месцам, куды кожны беларус можа прыйсці і атрымаць любую дапамогу, пачынаючы ад чалавечых зносін і заканчваючы рэальнай дапамогай з жытлом, працаўладкаваннем, дакументамі, атрымаць юрыдычную і псіхалагічную кансультацыі. Мы зразумелі, што цяпер вельмі вялікая запатрабаванасць у зносінах, у кантактах і таму Беларускі дом тут – гэта тэрыторыя камфорту, утульнасці, і любыя людзі з добрымі думкамі, мэтамі, могуць сюды прыходзіць з 9 раніцы да поўначы", – кажа валанцёрка фонду "Разам" Віялета.

svaboda.org

**навіны**

# У ІРКУЦКАЙ ВОБЛАСЦІ ПРАЙШЛІ "ДНІ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ"

Праект "Дні беларускай культуры ў Іркуцкай вобласці" быў створаны ў гонар юбілею рэгіянальнай грамадскай арганізацыі "Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага" (ІТБК) і падтрыманы Фондам прэзідэнцкіх грантаў. Шэраг мерапрыемстваў, накіраваных на прадстаўленне традыцыйнай і сучаснай культуры беларусаў і беларускіх перасяленцаў Іркуцкай вобласці, аб'яднаў намаганні некалькіх муніцыпальных утварэнняў, а таксама прадставіў вынікі працы ўжо існуючых праграм беларусаў Прыбайкалля.




Мінская дэлегацыя з дванаццаці гасцей, якую ў міжнародным іркуцкім аэрапорце сустрэла кіраўніца ІТБК Алена Сіпакова, прыбыла, каб падтрымаць іркуцкіх калег і разам з імі годна прэзентаваць беларускую культуру ў рэгіёне.

Усіх удзельнікаў "Дзён беларускай культуры" чакала сямідзённае падарожжа па Іркуцкай вобласці і Прыбайкаллі.

З 22 па 24 жніўня беларускія госці наведалі архітэктурна этнаграфічны музей "Тальцы", сучасную арт-галерэю "CheGuevara", іркуцкае "Радыё Шансон", Камень Чэрскага, размешчаны ў пасёлку Ліствянка, Байкальскі лімналагічны музей, інфармацыйнае агенцтва "Байклал24", Дзяржаўную тэлевізійную і радыёвяшчальную кампанію, а таксама паўдзельнічалі ў "Шпацырах па старым Іркуцку". У многіх з пералічаных месцаў госсці выступалі з канцэртамі і ўдзельнічалі ў эфірах для жыхароў Іркуцку – гучалі беларускія песні ў выкананні народнага ансамбля "Вербіца" і прафесійных фальклarыстаў з асобнымі нумарамі дуэтам і сольна – Іллі Арыстава і Аляксея Галіча.

Тымі ж днямі акрамя канцэртаў у Іркуцку прайшлі майстар-класы па выцінанцы ад Вольгі Бабурынай, кіраўніцы секцыі выцінанкі Беларускага саюза майстроў народнай творчасці. Дасведчаная прафесіяналка на адкрытым занятку не толькі стварыла чарговы шэдэўр, але і пазнаёміла мясцовых жыхароў з гісторыяй гэтага найцікавага народнага мастацтва выразання ўзораў з паперы.

Таксама ў Іркуцку адбыўся семінар-практыкум па беларускіх народных танцах, які зладзіў народны фальклорны ансамбль "Вербіца" – млын, полька-матылёк, кракавяк, лявоніха – харэографы атрымалі пацверджаныя сертыфікатамі веды пра асаблівасці беларускага сцэнічнага танца, якія спатрэбяцца ім у далейшай працы. Слухачы атрымалі сертыфікаты.

З 25 па 28 жніўня ўдзельнікі праводзілі вулічныя канцэрты і майстар класы ў Іркуцкім і Альхонскім раёнах.

"Вялікі беларускі канцэрт" адбыўся ў вёсцы Тургенеўка. Да мінскіх гасцей далучыліся творчыя калектывы рэгіёну з Куйтунскага, Усольскага і Іркуцкага раёнаў. Для гледачоў былі выкананыя найлепшыя беларускія песні пра каханне і паўсядзённы побыт. Падчас канцэрту Ілля Арыстаў, фальклярыст і выканаўца традыцыйных песень, зладзіў для дзяцей майстар-клас па вырабе капелюша.

Кожнае дзіця мела магчымасць зайграць на музычных інструментах: цымбалах і барабане. Кожнаму жыхару Тургенеўкі запомніліся песні і танцы беларускіх артыстаў, іх прыгожыя, яркія касцюмы, тое, як родная мова і нацыянальны каларыт напоўнілі вёску беларускім духам.




27 жніўня майстар класы і канцэрт беларускага ансамбля адбыўся ўжо на тэрыторыі Байкала, на штогадовым фестывалі музыкі "Байкал Live". Народныя музыкі выйшлі на сцэну пад бурныя авацыі і выканалі традыцыйныя беларускія песні, а таксама песню Алеся Камоцкага "Велічным морам", якая паспела стаць хітом за гэтыя дні – пра мудрасць і моц Байкала, пра сібірскіх беларусаў і Беларусь – далёкую гістарычную радзіму. Алесем Камоцкі напісаў яе ў 2015 годзе адмыслова для "Сустрэчы беларусаў свету на Байкале".

Сёлета адбылася ўжо трэцяя такая сустрэча, падчас якой акрамя творчасці абмяркоўваліся пытанні захавання этнаграфічнага матэрыялу і фальклору перасяленцаў, аналізаваўся паспяховы вопыт калег у распрацоўцы сацыяльна значных праектаў, этна-праектаў і маршрутаў для турыстаў. Удзел у ёй бралі прадстаўнікі Іркуцкай вобласці, Масквы, Мінска і Маладзечна.

Праводзячы гасцей у аэрапорце Алена Сіпакова зазначыла: "Гэта не апошні прыезд беларускіх артыстаў у Сібір. Мы надалей будзем ладзіць падобныя праекты, каб іркуцяне мелі магчымасць знаёміцца з традыцыйнай і сучаснай беларускай культурай – гэта галоўная мэта дзейнасці нашай арганізацыі ўжо 25 гадоў".

Удзельнікі раз'ехаліся, але цёплыя зносіны працягваюцца ў адмыслова створаных чатах – актыўна абменьваюцца фатаграфіямі, музычным матэрыялам, плануюць сумесныя праекты на адлегласці, а каманда праекта зараз мантажуе ролікі, якія неўзабаве будуць прадстаўлены шырокай публіцы ў інтэрнэце. Гэта будзе анлайн-сустрэча з народнай майстрыцай Беларусі па выцінанцы Вольга Бабурынай. Кожны глядач зможа сам стварыць свой шэдэўр.

Таксама будзе і выніковы фільм з канцэртнымі нумарамі і яркімі эпізодамі "Дзён беларускай культуры ў Іркуцкай вобласці".

**Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага**

эміграцыя

# ВА УКРАІНУ З'ЕХАЛА БОЛЬШ ЗА 160 ТЫСЯЧ ГРАМАДЗЯН БЕЛАРУСІ

Беларускія і ўкраінскія праваабронцы заявілі аб новай вялікай хвалі міграцыі грамадзян Беларусі, якія ўцякаюць ад пераследу, і заклікалі ўлады Украіны стварыць умовы для іх легалізацыі, піша Свабода.

"Нягледзячы на тое, што спынена авіяцыйнае злучэнне і практычна немагчыма выехаць з Беларусі па зямлі, ва Украіну цяпер едзе ўсё больш і больш людзей. Як сведчыць наша практыка, гэта падобна да таго, што адбывалася ўвосень мінулага года", – паведаміла кіраўніца грамадскай ініцыятывы Free Belarus Center на прэсавай канферэнцыі ў Кіеве.

Паводле яе, цяпер арганізацыі беларускай дыяспары атрымліваюць да 30 зваротаў на тыдзень аб дапамозе. "Мы не ведаем дакладных дадзеных з міграцыйнай службы на сёння, але нам дакладна вядома, што са жніўня па снежань 2020 года ва Украіну ўехала 161 тысяча беларусаў. Безумоўна, не ўсе засталіся тут, бо сапраўды, для большасці немагчыма легалізавацца ва Украіне, нягледзячы на тое, што шмат з іх маюць высокую прафесійную кваліфікацыю", – дадала Паліна Бродзік.

Па дапамогу толькі ў Free Belarus Center звярнуліся больш як 700 грамадзян, якія патрабавалі гуманітарнай, прававой і псіхалагічнай дапамогі. "Стан гэтых людзей вельмі складаны. Толькі міграцыйная служба можа сказаць, колькі беларусаў засталося ва Украіне, але можна сцвярджаць, што гэта тысячы і сотні тысяч, і людзі працягваюць выязджаць з Беларусі", – дадала яна.

### З якімі праблемамі сутыкаюцца беларусы ва Украіне

Грамадзяне Беларусі, якія з'язджаюць ва Украіну, хочуць знаходзіцца ў прававым полі, але ўкраінская заканадаўства прадугледжвае абмежаваную колькасць падстаў для легалізацыі – гэта атрыманне відаў на жыхарства ці статусу ўцекача.

"Асобная праблема – гэта працаўладкаванне. Яна была вырашана для IT-сектара, але мы бачым, што ва Украіне з'яўляецца ўсё больш і больш прадстаўнікоў іншых прафесій. Гэтая тэма таксама патрабуе асобнай увагі, бо фармуецца новы кластар высокакваліфікаваных спецыялістаў".

Паводле кіраўніцы Free Belarus Center, не вырашана і пытанне бяспекі асабліва для тых грамадзян, якія знаходзяцца пад крымінальным пераследам у Беларусі.

"Мы ведаем, што толькі за 2021 годзе з Украіны было дэпартавана 16 грамадзян Беларусі, калі мы ведаем, што там адбываецца прававы дэфолт, калі няма судовай сістэмы, калі прымяняецца смяротнае пакаранне, беларусаў дэпартуюць з Украіны ці ў Беларусь, ці ў трэцяя краіны".

Праваабаронцы таксама заклікалі ўлады Украіны спыніць супрацу праваахоўных органаў з Беларуссю. Найперш мова ідзе пра рэагаванне на запыты кампетэнтных органаў Беларусі аб затрыманні і выдачы беларусаў, якія знаходзяцца на ўкраінскай тэрыторыі, а на радзіме пераследуюцца паводле крымінальных спраў і палітычных матываў.

### "Беларусь – небяспечная краіна"

Каардынатар праекта "Без кордонів" Максім Буткевіч дадаў, што павелічэнне для грамадзян Беларусі тэрмінаў знаходжання ва Украіне таксама не вырашае праблему уцекачоў. "Пасля гэтага ім трэба або атрымліваць легальны статус, выязджаць або працягваць жыць ва Украіне нелегальна", – сказаў ён.

Правабаронча арганізацыі разглядаюць усіх беларускіх грамадзян, якія з'язджаюць з краіны ад пераследу, як палітычных уцекачоў, і лічаць, што менавіта такім чынам да іх павінны ставіцца і міграцыйныя ўлады.

"Мы лічым вымушаных мігрантаў і мігрантак з Беларусі ўцекачамі паводле крытэрыяў Венскай канвенцыі ААН 1951 года – яны не могуць вярнуцца ў Беларусь, бо абгрунтавана баяцца пераследу паводле сваіх палітычных поглядаў. І гэта абсалютна дакладнае вызначэнне, незалежна ад таго, ці надала дзяржава Украіна ім адпаведны статус уцекача", – падкрэсліў Максім Буткевіч.

Паводле яго, большасць беларусаў не звяртаюцца па статус уцекача, бо на час разгляду адпаведнай заявы іх правы ва Украіне абмяжоўваюцца.


Паліна Бродзік

"Найперш яны павінны аддаць свой пашпарт і жыць з даведкай міграцыйнай службы, якая фармальна не з'яўляецца пасведчаннем асобы. На падставе гэтай даведкі нічога нельга зрабіць – ні ўладкавацца на працу, ні адкрыць рахунак у банку, ні нават набыць квіток (на транспарт). І ў такім статусе трэба жыць доўгі час – мова ідзе пра месяцы, а магчыма нават і гады", – растлумачыў Максім Буткевіч.

Аналагічныя праблемы вынікаюць і пры атрыманні статусу аб дадатковай абароне дзяржавы.

"Статус часовай абароны дапамог бы ўрэгуляваць сітуацыю тых, хто быў вымушаны з'ехаць, бадай на год, і гэты год людзі маглі б пражыць больш спакойна, бяспечна і легальна, працаваць легальна і падтрымліваць сябе і будаваць планы. Але гэтага не адбылося", – дадаў каардынатар праекта "Без кордонів".

Максім Буткевіч таксама паведаміў, што ў выпадку ўхвалення новага закону зменшыцца і колькасць падстаў для атрымання хаця б часовага віду на жыхарства, бо большасць беларусаў атрымлівалі яго як валанцёры міжнародных арганізацый.

"Першае, што зрабілі прадстаўнікі ўкраінскага ўрада, – палепшылі ўмовы для IT-спецыялістаў. Гэта, безумоўна, добра, але выглядае, як спроба нажыцца на горы ў суседняй краіне, таму што даваць прытулак толькі тым, хто эканамічна карысны – гэта зусім не тое, што даваць прытулак тым, хто мае ў ім патрэбу. На жаль, гэта ў цэлым адпавядае тэндэнцыям украінскай міграцыйнай палітыкі. У нас яна часта падмяняецца паняццем барацьбы з нелегальнай міграцыяй", – мяркуе Максім Буткевіч.

### Што кажа афіцыйная статыстыка

У чэрвені Дзяржаўная служба статыстыкі Украіны абнародавала вынікі міграцыйных працэсаў, што адбываліся цягам 2020 года.

Згодна з афіцыйнай інфармацыяй, летась ва Украіну прыбылі 1 018 грамадзян Беларусі, 769 з якіх засталіся на ўкраінскай тэрыторыі, а іншыя з'ехалі.

Гэта неістотна адрозніваецца ад вынікаў 2019 года – тады ва Украіну прыбылі 1 075 грамадзян Беларусі і 598 беларусаў засталіся на ўкраінскай тэрыторыі.

Агульны міграцыйны прырост з усіх краін у 2020 годзе склаў 7 240 грамадзян, а ў 2019-м – 18 222 асобы.

Найбольш з постсавецкай прасторы ва Украіну летась прыехала грамадзян Расіі – 2 910, з іх 2 068 засталіся ва Украіне.

У 2019 годзе колькасць расійскіх мігрантаў была яшчэ большай – з 4 359, якія прыбылі, ва Украіне засталіся 3 096 грамадзян Расіі.

Паводле праваабаронцаў, гэтыя лічбы якраз і могуць быць звязаныя з тым, што няшмат беларусаў змаглі атрымаць ва Украіне легальны статус.

"Радыё Свабода"


Максім Буткевіч

навіны

# ВЫЦІСНУТЫ З БЕЛАРУСІ СУЧАСНЫ МАСТАЦКІ ТЭАТР ЗАПРАЦАВАЎ У КІЕВЕ

Сучасны мастацкі тэатр, што быў фактычна выціснуты з Беларусі, цяпер працуе ў Кіеве. Пра гэта паведаміў яго кіраўнік Уладзімір Ушакоў, які ўжо плануе некалькі прэм’ер і гастролі ў шэрагу краін Еўропы.

Ціск на тэатр пачаўся яшчэ летась: калектыву давялося памяняць некалькі пляцовак, а гастрольныя пасведчанні сталі выдавацца марудна альбо не выдавацца ўвогуле. У студзені МНС адмяніла паказ спектаклю #Гэтадэмакрэйшэн за паўгадзіны да пачатку. У выніку запланаванага “Былога сына” паводле аднайменнай кнігі Сашы Філіпенкі Уладзімір Ушакоў паставіў не ў Мінску, а ў Кіеве – прэм’ера адбылася 20 мая.

“Пасля прэм’еры “Былога сына” я ўсё не мог да канца вызначыцца, што рабіць у гэтай сітуацыі і як правільна паступіць, – кажа Уладзімір. – Я разумеў, што магчымасці працаваць у Мінску ні ў мяне, ні ў калектыву няма, адпаведна трэба шукаць шляхі, як не спыніць тэатр. Таму я прыняў рашэнне працягнуць працу ва Украіне. У тэатральным асяроддзі нам тут выказваюць вялікую салідарнасць і шмат дапамагаюць у працы”.

Каманда тэатра фарміруецца з беларусаў, якія былі вымушаны з’ехаць, таксама ў Кіеве цяпер знаходзіцца артыст СМТ Дзяніс Дудзінскі.

“Калектыў цалкам не пераехаў. Кожны артыст разам са сваёй сям’ёй павінен сам прыняць рашэнне, мы на яго ўплываць не можам. Да таго ж пакуль не маем фінансавых магчымасцяў, каб забяспечыць усю каманду жыллём і стабільным заробкам. Мы працуем у тых умовах, якія сёння ёсць, і будзем старацца зрабіць так, каб калектыў рана ці позна змог быць разам”.



Спектакль “Дракон”. Фота са старонкі СМТ у фэйсбуку

Цяпер тэатр працуе над некалькімі будучымі прэм’ерамі і арганізоўвае гастролі па Украіне і шэрагу іншых краін Еўропы. У рэпертуары застаюцца ранейшыя спектаклі СМТ і новая пастаноўка “Былы сын”. У гастролі Уладзімір плануе ўключыць работы “Дракон”, “Імперыя прыгажосці” і #Гэтадэмакрэйшэн, “каб спектаклі, якія не давалі паказваць у Беларусі, убачылі гледачы ў іншых краінах”.

“Мы вымушаны працаваць у тых абставінах, якія склаліся, але спадзяемся, што вернемся і будзем працаваць на Радзіме. Пастаноўка “Былы сын” даказвае, што мы кажам пра беларускія праблемы і беларускія складанасці.

Цяпер я шукаю п’есу, якая б магла расказаць пра жаночы бок нашай рэвалюцыі, пра нашых гераінь. Натуральна, мы павінны думаць і пра камедыі, каб тэатр мог развівацца эканамічна, але сваю пазіцыю мы не пакідаем і ўвесь час думаем, як размаўляць пра тое, што адбываецца ў нашай краіне”.

nn.by

# БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ НАБІРАЕ СТУДЭНТАЎ НА МАГІСТАРСКІЯ ПРАГРАМЫ

Вучыся анлайн і атрымлівай дыплом еўрапейскага ўзору. Беларуская Акадэмія набірае студэнтаў на магістарскія праграмы. Акрамя таго, пашырыўся пералік спецыяльнасцяў і для бакалаўрыяту. Асабліва актуальна гэта можа быць для тых беларусаў, якія цяпер апынуліся за мяжой і шукаюць магчымасць для навучання або змены сваёй прафесіі.

Кажа прафесар, доктар габілітаваны, каардынатарка ініцыятывы – Святлана Куль-Сяльверстава:

– Я дамаўляюся з рэктарамі ВНУ (пакуль гэта тры польскія ВНУ), мы дамаўляемся пра адкрыццё накірунку для студэнтаў з Беларусі. Выкладанне ідзе па-расейску і па-беларуску, прыкладна 50 на 50. Гэтае ВНУ, з якой мы дамовімся, бярэ на працу нашых выкладчыкаў, і яны выкладаюць толькі для нашых студэнтаў. А студэнт пасля навучання атрымлівае дыплом гэтай ВНУ, а не дыплом Беларускай Акадэміі.



Падрабязную інфармацыю пра Беларускую Акадэмію, спецыяльнасці, можна знайсці ў інтэрнэце і ў сацыяльных сетках:

– У нас ёсць канал у Тэлеграме, у Фэйсбуку, мы цяпер робім свой сайт. Дастаткова прагугліць, упісаўшы словы “Беларуская Акадэмія”. Акрамя таго, нашы партнёрскія школы размяшчаюць у сябе на сайт інфармацыю пра Беларускую Акадэмію.

Навучанне ў Беларускай Акадэміі ажыццяўляецца анлайн, яно платнае. Да прыкладу, год навучання для бакалаўрыяту каштуе 1 тысячу еўра, іх можна выплаціць дзвюма часткамі па 500 еўра. Магістарка традыцыйна даражэйшая.

Яна Запольская, «Беларускае Радыё Рацыя»

# МАРЫІ КАЛЕСНІКАВАЙ ПРЫСУДЗІЛІ ШТУТГАРЦКУЮ ПРЭМІЮ МІРУ

Ініцыятыва з Нямеччыны AnStifter узнагародзіла Калеснікаву за мужную барацьбу з аўтакратычным рэжымам Аляксандра Лукашэнкі, паведамляе Свабода са спасылкай на DW.

Марыя Калеснікава жыла ў Штутгарце 12 гадоў. Калеснікава – музыка, якая стала кіраўніцай штаба Віктара Бабарыкі, была арыштавана і пасля 10 месяцаў зняволення 6 верасня асуджаная да 11 гадоў калоніі агульнага рэжыму.

Афіцыйная цырымонія ўзнагароджання прэміяй у памеры 5000 еўра адбудзецца 19 снежня. Штутгарцкая прэмія міру выдаецца за асаблівыя заслугі ў дасягненні міру, справядлівасці і салідарнасці.

Паводле Радыё Свабода



навіны

# У ЛЬВОВЕ ЗАПРАЦАВАЛА ПЕРШАЯ ШКОЛА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Школу па вывучэнні беларускай мовы ў Львове адкрыў "Беларускі крызісны цэнтр у Львове" пры падтрымцы ўкраінскай скаўцкай арганізацыі "Пласт".

"Беларускі крызісны цэнтр у Львове" дапамагае беларусам, якія былі змушаныя з'ехаць з Радзімы з-за пераследу па палітычных матывах.

Цэнтр аказвае юрыдычную і псіхалагічную падтрымку, падказвае, як правільна падаць дакументы на ВНЖ, на атрыманне статусу ўцекача, дапамагае знайсці працу, жытло і т.п. Таксама "Крызісны цэнтр" праводзіць навучальныя кампаніі, культурныя мерапрыемствы, акцыі.

**ГГ, "Белсат"**

# Саша Філіпенка: "ПАСЛЯ ШКОЛЫ МНЕ ТРЭБА БЫЛО ІСЦІ Ў АМАП"



Пісьменнік з гумарам пракаментаваў апошнія сумныя падзеі:

"Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт, у які я калісьці паступіў у Мінску, зачынілі па палітычных прычынах.

"Бард Каледж", дыплом якога я атрымаў дыстанцыйна, і які супрацоўнічаў са Смольны інстытутам свабодных мастацтваў і навук у Пецярбургу, у які я пераехаў пасля закрыцця ЕГУ, генпракуратура РФ прызнала непажаданай арганізацыяй.

Тэлеканал "Дождж", на якім я працаваў вядоўцам, прызнаны замежным агентам.

Спектакль па маім рамане "Былы сын" забаронены ў Мінску.

П'еса "Ціхары" – таксама.

Мяркуючы па ўсім, пасля школы мне трэба было ісці ў АМАП – глядзіш, распусцілі б".

Нагадаем, "Дождж", галоўны незалежны тэлеканал Расіі, на мінулым тыдні прызналі "замежным агентам". Гэта значыць, што ў тэлеканала могуць пачацца праблемы з вяшчаннем канала ў кабельных сетках, ад супрацоўніцтва з ім могуць адмовіцца многія рэкламадаўцы, якія асцерагаюцца рызык.

**budzma.by паводле "Салідарнасць"**



# КАНЦЭРТ МАРГАРЫТЫ ЛЯЎЧУК У ПРАЗЕ

Беларуская оперная зорка Маргарыта Ляўчук 7 ліпеня 2021 выступіла з канцэртам у Празе ў канцэртнай залі Пражскага сімфанічнага аркестра – касцёле Святых Шымана і Юды.

Канцэрт, арганізаваны беларускай дыяспарай у Чэхіі, адбыўся пад патранатам мэра Прагі Здэнека Гржыба. На фартэпіяна спявачцы акампаніяваў вядомы чэшскі джазавы піяніст Ондржэй Кабрна. Вядоўца канцэрту – Аляксей Знаткевіч.

Былая салістка Опернага тэатра Беларусі Маргарыта Ляўчук брала ўдзел у перадвыбарчай кампаніі Святланы Ціханоўскай на прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі ў 2020 годзе. Адказная ў Народным антыкрызісным кіраўніцтве за пытанні культуры і нацыянальнай спадчыны. У сувязі з пераследам у Беларусі, пачатым падчас яе гастроляў у Літве, была вымушаная застацца там з сярэдзіны восені 2020 года.

Сумесна з блогерам Андрэем Паўком выпускае на YouTube-канале сатырычныя кліпы.

**svaboda.org**

# СА ШКОЛЬНАЙ ПРАГРАМЫ ПА ЛІТАРАТУРЫ ПРЫБРАЛІ СВЯТЛАНУ АЛЕКСІЕВІЧ



Са школьнай праграмы па беларускай і рускай літаратуры для 11 класаў прыбралі нобелеўскую лаўрэатку Святлану Алексіевіч, паведамляе "Наша Ніва".

Яе імя цяпер не згадваецца ў пераліку "рускамоўнай літаратуры Беларусі", а таксама ў раздзеле, прысвечаным сучаснай беларускай літаратуры.

Таксама ў новай праграме па рускай літаратуры адсутнічаюць творы іншага нобелеўскага лаўрэата – Аляксандра Салжаніцына. Яшчэ ў мінулым годзе вывучаўся яго твор "Адзін дзень Івана Дзянісавіча". А яшчэ раней – "Матронін двор".

**budzma.by**

гутарка

# “ДАВАЙЦЕ ЗРОБІМ З МЯНЕ ТЭРАРЫСТКУ ПА ЛІНІІ ІНТЭРПОЛУ”

Дырэктарка Гарадзенскага дзіцячага хоспісу Вольга Вялічка расказала Свабодзе, як даведалася, што яе шукае Інтэрпол, што будзе з хворымі дзецьмі пасля ліквідацыі хоспісу, чаму яна не баіцца праследу і як марыць перайсці мяжу па лесе.


Вольга Вялічка з мужам Сяргеем. Архіўнае фота

Вользе Вялічцы 37 гадоў. Яна ўзначальвае дзіцячы хоспіс у Горадні 13 гадоў. Арганізацыя дапамагае дзяцям цяжка і невылечна хворых дзяцей і іхным сем’ям.

У 2020 годзе Вялічка далучылася да каманды Віктара Бабарыкі, пайшла незалежнай назіральніцай на выбарах, удзельнічала ў стварэнні Рады народнага даверу падчас жнівеньскіх пратэстаў у Горадні.

Яе затрымлівалі, пакідалі на суткі ў ізалятары, штрафавалі за ўдзел у мітынгу. Калі з’явілася пагроза, што забяруць дзяцей, сям’я пераехала ў Вільню. На Вялічку завялі дзьве крымінальныя справы (за нясплату падаткаў і ўдзел у пратэстах), і ўключылі ў спісы Інтэрполу. У хоспісу забралі памяшканне, а саму арганізацыю ліквідуюць разам з сотняй іншых НДА.

### “Можна ліквідаваць юрыдычную асобу, але людзі засталіся і мы будзем дапамагаць”

**– Дзіцячы хоспіс цяпер у працэсе ліквідацыі. Што будзе далей з дзецьмі і работнікамі?**

– Усё будзе нармальна. Усё будзе працаваць, як працавала. Гэтай уладзе патрэбна толькі ўлада. Іх не цікавіць, што будзе з людзмі, што будзе з жывёламі, што будзе з людзмі з абмежаванымі магчымасцямі, з пенсіянэрамі.

А нас цікавяць людзі. Таму ў нас ёсць план B, C, D, E, зыходзячы з таго, што ім зойдзе ў галаву. Мы будзем і далей дапамагаць людзям у межах закону ў той форме, у якой мы і раней аказвалі дапамогу.

Юрыдычная асоба “Гарадзенскі дзіцячы хоспіс імя святога Губерта” – гэта толькі юрыдычная назва. За гэтым стаяць людзі, неймаверны калектыў, якія ахвяруюць сабой, сваім часам, сваімі інтарэсамі. Можна ліквідаваць юрыдычную асобу, але людзі засталіся, і мы будзем дапамагаць. Некаторыя кажуць: “Як шкада!”. Не трэба ладзіць тут памінкі, дасылаць нам жалобныя лісты. Хоспіс меў такіх выпрабаванняў да неба і назад. Мы глядзім на гэта як на новае выпрабаванне, пасля якога мы павінны стаць больш дасканалымі.

**– Ці вы не баіцеся, што вашую працу па-за межамі юрыдычнай асобы беларускія ўлады могуць прызнаць злачыннай?**

– Калі ласка! Я іх прашу давесці ўсё да абсурду. Давайце зробім з мяне тэрарыстку па лініі Інтэрполу, а з дзіцячага хоспісу – тэрарыстычную, экстрэмісцкую арганізацыю! Яны ўжо дайшлі да абсурду на ўвесь свет. Калі гэта ўсё, на што яны здольныя, то калі ласка. Свой розум я ім не пастаўлю. А мы маем адну мэту – дапамагаць дзецям. Нармальны чалавек гэта разумее.

**– Ці за гэты час, што вы пакінулі Беларусь і на вас завялі крымінальныя справы, нешта змянілася ў працы хоспісу?**

– Так, змянілася, і ў лепшы бок. Неўзабаве хоспісу будзе 14 гадоў. Усё, чаго мы дасягнулі, далося праз цяжкасці. Таму я бясконца дзякую за гэтае выпрабаванне. Мы сталі больш дасканалымі, салідарызаваліся з міжнароднымі арганізацыямі. У нас цяпер ёсць падтрымка ўсяго свету. Калі я прыязджаю кудысьці, прыкладам цяпер – на стажаванне ў Варшаву, мне кажуць: “А, дык гэта той самы хоспіс!”. Увесь свет ведае твар гэтай (беларускай) улады. Анджаліна Джалі ведае пра Гарадзенскі дзіцячы хоспіс.

### “Нас адпусцілі са словамі: Жыве Беларусь!”

**– Вы згадалі, што вас уключылі ў спісы Інтэрполу. Адкуль вы пра гэта даведаліся і ці не страшна вам цяпер жыць за мяжой?**

– Я даведалася пра гэта ў аэрапорце Украіны, калі паляцела туды з дзецьмі з Літвы. Быў пашпартны кантроль. Памежніца глядзіць на мяне, на дзяцей, на пашпарт, у камputар. У кампутар, на пашпарт, на дзяцей, на мяне. І пытаецца: “Вы пашпарт не гублялі?” – “Не, я пашпарт не губляла”. – “Вы дакладна пашпарт не гублялі?” – “Не губляла”. Яна бярэ слухаўку і кажа: “У мяне супадзенне па лініі Інтэрполу”.

Да ўсяго гэтага я ня мела палітычных амбіцый, мне было нецікава. А цяпер маю, бо гэтая ўлада павінна скончыцца, і мы мусім зрабіць нармальную, адэкватную, цывілізаваную, дэмакратычную краіну. Ненармальна выкарыстоўваць такія інструменты для запалохвання людзей.

**– Вы хоць на момант спужаліся, што вас могуць адправіць у Беларусь?**

– Ну адправяць яны мяне – і што далей? Я што, Ціханоўская ці Латушка? Яны неадэкватныя. Яны могуць вывезці чалавека ў багажніку.

**– Значыць, вас ужо нічым не напужаць?**

– Калі мяне тады забралі ў ІЧУ, ну і забралі. Сяджу і сяджу. Тое, што я мусіла пераехаць у іншую краіну і тут жыць, для мяне гэта стрэс, што тут таіць. Але я веру ў тое, што калі табе нешта суджана, то табе гэта будзе. Вядома, чалавек мусіць быць асцярожным, абачлівым. Але калі табе наканавана гэта лёсам, трэба прайсці гэта годна.

**– Як вырашылася сытуацыя ў аэрапорце?**

– Яны звязаліся з пэўнымі структурамі, убачылі, што тут відавочны палітычны праслед, і адпусцілі мяне.

Навошта беларуская ўлада гэта робіць? Я не магу зразумець. Я выехала, сяджу сабе спакойна, іх не чапаю, хоспіс працуе ды ўсё. Яны не могуць падумаць, што будзе далей, на крок, на два далей.

Нас пратрымалі тры гадзіны і адпусцілі са словамі “Жыве Беларусь!”.

### “Вывучыце тры простыя словы”

**– Як вы паставіліся да ўзлому вашай кватэры ў Горадні?**

– Ды спакойна. Прыйшлі, паглядзелі, як жыве дырэктарка хоспісу, ну і што? Гэта толькі рэчы. Я не прывязаная да рэчаў. Я прывязаная да людзей, да ўспамінаў, да падарожжаў, да адказаў палітвязняў на мае лісты. Ну ўзламалі дзьверы адмычкамі, паглядзелі, як мы жывём, замкнулі тымі ж адмычкамі, як бандыты, і пайшлі. Ну і што?

Я была ўпэўненая да жніўня мінулага году, што я ўсё бачыла ў гэтым жыцці, толькі ўнукаў сваіх не бачыла. Жнівень мінулага году паказаў, чаго я не бачыла раней: як беларус б'е беларуса, якія моцныя беларускія жанчыны, якія акуратныя беларусы. Гэта неймаверна, як за вельмі кароткі час мы даспелі да нацыі. Я бясконца ўдзячная лёсу, што я нарадзілася ў такі час, калі магу гэта бачыць, як на нашых вачах ствараецца тая гісторыя.

**– Вы кажаце такія ўзнёслыя словы. Але многія беларусы праз год пасля выбараў у прыгнечаным стане, расчараваныя. Што вы маглі б сказаць людзям у такой сытуацыі? Што цяпер рабіць?**

– Чалавек ніколі ня будзе жыць добра. Чалавек такая істота, якая заўсёды будзе незадаволеная. Цяпер беларусам, якія знаходзяцца ў таталітарнай пастцы, вельмі складана нешта рабіць, што б паказвала адкрытую барацьбу. Але барацьба можа быць і не адкрытай.

Беларусы дагэтуль вельмі мала ўвагі ўдзялялі беларускай культуры, беларускай мове, беларускім выдатным людзям. І гэты час можна скарыстаць, каб даведацца, якая скарбніца ў нас ёсць, якія ёсць цудоўныя месцы ў Беларусі. Я вельмі згодная з Дашкевічам, які кажа: “Вывучыце тры простыя словы па-беларуску: “добры дзень”, “дзякуй”, “калі ласка”. Скажыце ў краме “дзякуй”, а не “спасибо”. Можа здавацца, што гэта дурасць, я з'ехала 10 месяцаў таму, адарвалася ад жыцця.

Нават у такіх чорных умовах можна заставацца чалавекам. Гэтыя простыя словы – “добры дзень”, “дзякуй”, “калі ласка” – робяць з цябе чалавека і робяць з цябе беларуса: не ўкраінца, не паляка, не француза, а беларуса. Я веру, што беларускасць ёсць у кожным беларусе, нават у “ябацьках”. Калі стварыць адпаведныя ўмовы, гэтыя маленькія зярняты прарастаюць.

З 2016-2017 году беларуская ўлада ўзяла кірунак на лібералізацыю. Макей ездзіў, расказваў пра “Ўсходняе партнёрства”. За такі кароткі час, 4-5 гадоў, колькі ў нас з'явілася шмат класных гарызантальных грамадскіх ініцыятываў! Я цяпер больш чытаю па-беларуску, выкарыстоўваю гэты час, каб у сабе прарошчваць беларускасць. Калі людзі будуць гэта рабіць, гэта вельмі-вельмі важна. Гэта тое, чаго мы не рабілі дагэтуль, бо беларуская мова спачатку была “калгасная”, пасля стала “апазіцыйнай”, потым пераўтварылася ў “свяшчэнную карову”, на якой нібыта нельга пісаць плёткі, бо па-беларуску можа пісаць толькі Янка Купала.

У Беларусі адбываецца ментальны развал Савецкага Саюзу, бо 30 гадоў таму адбыўся толькі фізічны развал. Вырасла новае пакаленне, для якога чалавек з'яўляецца найвышэйшай каштоўнасцю.

**– Летась вы казалі, што хочаце вярнуцца ў Беларусь сёлета ўвесну. Як цяпер вы думаеце, калі вы зможаце вярнуцца дадому?**

– Я вярнуся пры першай магчымасці. Калі пачалася гэтая сітуацыя на мяжы, у мяне з'явіўся план: я хацела прыйсці ў Беларусь лесам, крыху пабыць і пайсці. Мне сапраўды здавалася, што я так зраблю. Я нават сны пра гэта сніла. Але потым я ўзважыла плюсы і мінусы і зразумела, што не магу думаць толькі пра сябе, на мне завязана шмат усялякага рознага. І я не пайшла.

svaboda.org

**бізнэс**

# ЗА МЯЖОЙ СТВАРЫЛІ АБ'ЯДНАННЕ БЕЛАРУСКАГА БІЗНЕСУ, ВЫМУШАНАГА ПАКІНУЦЬ КРАІНУ

ABBA (Association of Belarusian Business Abroad) будзе спрыяць беларускім бізнесоўцам захаваць і абараніць бізнес для пабудовы фундаменту свабоднай і паспяховай Беларусі, кажуць стваральнікі арганізацыі.

Асацыяцыя беларускага бізнесу за мяжой узнікла ў Варшаве. Яе ініцыятары – былыя чальцы Народнага антыкрызіснага кіраўніцтва Яўген Буры і Мікалай Пракоф'еў. Прэзідэнт ABBA Буры працаваў раней у дзяржаўным сакратарыяце Савету бяспекі Беларусі дарадцам у пытаннях эканамічнай бяспекі і ў прыватным бізнесе. Ягоны намеснік Пракоф'еў спецыялізуецца ў міжнародным бізнесе і кіраваў у Беларусі прыватнай кампаніяй.


Народнае антыкрызіснае кіраўніцтва (Courtesy Photo)

Яўген Буры

“Гэта асацыяцыя беларускага бізнесу, які ў сілу розных прычын быў вымушаны пакінуць нашу родную краіну, у тым ліку не жадаючы працаваць на карысць рэжыму. – расказвае Буры. – Наша галоўная місія – згуртаваць, аб'яднаць і падтрымаць прадстаўнікоў беларускага бізнесу, дзе б ён не знаходзіўся. І цяпер, калі рэжым спрабуе знішчыць прадпрымальнікаў як клас, а бізнес разглядаецца выключна як інструмент фінансавання незаконнай улады, аб'яднанне бізнесу неабходнае як ніколі”.

Колькі бізнесоўцаў і бізнесаў выехала з Беларусі за апошні год, падлічыць вельмі складана. Большая частка з іх выязджалі не толькі па бізнес-візах, але і па іншых, у тым ліку гуманітарных. Толькі ў Польшчы колькасць фірмаў, зарэгістраваных беларусамі, з 9 жніўня 2020 году вырасла на 25 %.

Паводле слоў Бурага, ABBA – гэта некамерцыйны праект. Ён рэалізоўваецца камандай эканамістаў і бізнесоўцаў, якія самі прайшлі праз рэпрэсіі, вымушаныя былі пакінуць Беларусь і страцілі бізнес.

“Ні ў каго ў камандзе няма намеру і нават думак узбагачацца за кошт такіх жа пацярпелых ад рэжыму людзей, як мы самі. Гэты праект цалкам незалежны і самастойны, але мы гатовыя і будзем супрацоўнічаць з усімі, хто падзяляе нашыя каштоўнасці, гатовы дапамагаць, быць ментарам, партнёрам або валанцёрам”, – гаворыць прэзідэнт ABBA Яўген Буры.

Асацыяцыя ня будзе падтрымліваць бізнес у выглядзе прамога фінансавання. Гаворка ідзе аб дапамозе ў адкрыцці бізнесу ў іншай краіне, неабходнай адукацыі, кансультацыі, даследаванняў рынку, пошуку фондаў, праграм іншых краін.

У якасці экспертаў будуць выступаць партнёры асацыяцыі, якія знаходзяцца і працуюць там, дзе вядзецца бізнес з беларускімі каранямі. ABBA ўжо актыўна працуе з дыяспарамі. Таксама асацыяцыя будзе прыцягваць увагу палітыкаў і чыноўнікаў тых краін, дзе знаходзяцца беларускія бізнесоўцы, каб пры патрэбе адстойваць іх інтарэсы.

“Акрамя таго, ABBA плануе запусціць адукацыйны праект для спрашчэння адаптацыі і старту новых праектаў. Ён уключае асновы вядзення бізнесу ў краіне знаходжання, легалізацыя, вывучэнне моў, працоўнае, падатковае заканадаўства, усё неабходнае для перазапуску бізнесу. І, атрымаўшы на курсах такія веды, бізнесмен ужо сам становіцца экспертам і зможа дапамагчы іншым беларусам сваімі ведамі і досведам”.

Ніякіх палітычны мэт арганізацыя сабе не ставіць, але для больш паспяховай рэалізацыі сваіх задач, паводле Бурага, збіраецца супрацоўнічаць з ініцыятывамі, якія ўжо даказалі, што яны здольныя на канкрэтныя дзеянні.

“Мы плануем ажыццяўляць шчыльнае ўзаемадзеянне з Офісам Святланы Ціханоўскай для адстойвання інтарэсаў беларускага бізнесу на самым высокім узроўні. Мы ўжо атрымліваем неабходную падтрымку і вельмі ўдзячныя за разуменне неабходнасці стварэння падобных ініцыятыў. У сваю чаргу мы як Асацыяцыя будзем даваць зваротную сувязь, інфармаваць аб праблемах бізнесу, прапаноўваць рашэнні, рыхтаваць прапановы для правядзення неабходных рэформаў у новай Беларусі, паколькі менавіта пацярпелы бізнес ведае, што і як трэба мяняць. І гэта, спадзяюся, будзе вельмі эфектыўнае супрацоўніцтва”. – расказаў прэзідэнт ABBA Яўген Буры.

27 і 28 жніўня Асацыяцыя беларускага бізнесу за мяжой правядзе ў Кіеве Форум “Бізнес-Беларусь: Вучыць. Дапамагаць. Ахоўваць”. Гэта бясплатная падзея для прадпрымальнікаў з Беларусі, якія ўжо вывезлі свой бізнес з краіны або неўзабаве гэта зробяць.

Дзмітры Гурневіч, svaboda.org

**навіны**

# ЛІСТ СЫНУ АД ПАЎЛА СЕВЯРЫНЦА

Вельмі добрыя і прыгожыя лісты, з цудоўнымі малюнкамі, дасылае з-за кратаў сябра Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Павел Севярынец сыну.



Адзін з лістоў на сваёй старонцы ў Facebook апублікавала ягоная жонка Вольга:

"Дарагі сын!

Намаляваў табе царкву-крэпасць у Мураванцы. Гэта, як і ў Сынкавічах, храм Ісуса, дзе людзі маглі схавацца і абараняцца, калі што. Мы з мамулечкай аднойчы былі ў ёй, заходзілі і маліліся. Вось такія прыгожыя дамы Божыя ў Беларусі былі ў шматлікіх мястэчках і вёсачках. На вежы (левай, калі стаяць тварам да ўваходу) вісіць звон – відаць перакладзіну. І, калі людзей склікаюць на малітву, звон робіць "Дзінь! Дзінь!"

Калі будавала і Мураванку, і царкву ў Сынкавічах, у Беларусі быў Залаты век. Людзі тады маліліся Богу тры разы на дзень: ютрань, абедня і вячэрня! Маліліся Богу, любілі Беларусь – і жылі цудоўна, і былі магутныя!

Госпад Бог шукае ў Беларусі такіх людзей – якія любяць Яго, моляцца і шануюць сваю сям'ю і сваю Радзіму. Вось што кажа Бог: "Ухіляйся ад зла і рабі дабро, і будзеш жыць вечна".

Абдымаю і цалую цябе, сыне! Мы цябе вельмі любім!

Твой тата"

Нагадаем, што Павел Севярынец несправядліва змешчаны за краты і знаходзіцца там ужо больш за год. 25 мая яму прысудзілі 7 гадоў узмоцненага рэжыму за нібыта арганізацыю масавых беспарадкаў.

**"Народная Воля"**

**кніга**

# ВЫЙШЛА КНІГА "НЕ АДЧАЙВАЕМСЯ"

Для ўсіх аматараў папяровых кніг ёсць шыкоўная навіна – пры дапамозе грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!" з'явілася кніга "Не адчайваемся". Аўтар Васіль Грынь альбо дзядзька Васіль, гаспадар хутара Засцянак Скрыплеў.




Хутар праслаўлены не толькі сваёй гасціннасцю і неверагоднымі краявідамі. Сюды з'язджаюцца тыя, хто хоча адпачыць ад гарадскога тлуму, акунуцца ў цёплую атмасферу беларускай аўтэнтыкі. Тут жыве надзвычай цікавы ў сваёй непасрэднасці шляхетны "бабыль" – спадар Браніслаыч. Размовы з гэтай незвычайнай асобай, яго разважанні і трапныя заўвагі і леглі ў аснову кнігі. Простыя чалавечыя эмоцыі, каларытны "засценкаўскі" гумар, адметная мова – усё гэта вы знойдзеце ў кнізе дзядзькі Васіля. Чытаць яе можна бясконцую колькасць разоў, пачынаючы з любой старонкі і кожны раз адкрываючы для сябе новы бок беларускай душы.

Набыць кнігу "Не адчайваемся" можна ў інтэрнэт-кнігарні Knihi.by.

## Беларускі каляндар памятных дат на верасень 2021 года

**3 верасня**
- 290 гадоў таму, у 1731-м, нарадзіўся Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, вучоны. Памёр у 1826-м.

**5 верасня**
- 120 гадоў таму, у 1901-м, нарадзіўся Віталь Вольскі (сапр. Вольскі-Зэйдэль), пісьменнік. Памёр у 1988-м.

**7 верасня**
- 165 гадоў таму, у 1856-м, памёр Цімафей Ліпінскі, гісторык, географ.

**8 верасня**
- 230 гадоў таму, у 1791-м, нарадзіўся Людвік Сабалеўскі, філолаг. Памёр у 1830-м.

**10 верасня**
- 105 гадоў таму, у 1916-м, памёр Аляксандр Ельскі, гісторык, пісьменнік.

**11 верасня**
- 180 гадоў таму, у 1841-м, нарадзіўся Гіяцынт Альхімовіч, мастак. Памёр у 1897-м.

**13 верасня**
- 25 гадоў таму, у 1996-м, памёр Эрнст Ляўкоў, геолаг.

**14 верасня**
- 115 гадоў таму, у 1906-м, у Вільні выйшаў першы нумар першай легальнай беларускай газеты «Наша доля».

**19 верасня**
- 100 гадоў таму, у 1921-м, памёр Кандрат Лейка, пісьменнік.
- 30 гадоў таму, у 1991-м, Вярхоўны Савет Беларусі прыняў пастанову аб змене назвы БССР на Рэспубліку Беларусь. Гербам была зацверджана «Пагоня», а сцягам – бела-чырвона-белы сцяг.

**25 верасня**
- 100 гадоў таму, у 1921-м, у Празе пачалася беларуская нацыянальная палітычная нарада.
- 25 гадоў таму, у 1996-м, патануў Мікола Селяшчук, мастак.

**26 верасня**
- 45 гадоў таму, у 1976-м, памерла Леаніла Чарняўская (жонка Максіма Гарэцкага), пісьменніца.

**28 верасня**
- 85 гадоў таму, у 1936-м, нарадзіўся Рудольф Пастухоў, пісьменнік. Памёр у 1997-м.

**29 верасня**
- 130 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Аркадзь Смоліч, нацыянальна-дзяржаўны дзеяч Беларускай Народнай Рэспублікі, вучоны ў галіне эканомікі, сельскай гаспадаркі, географ. Расстраляны ў 1938-м.

**30 верасня**
- 130 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Ота Шміт, матэматык, астраном, географ. Памёр у 1956-м.

**Беларусы ў свеце**
№ 7-8 (230-231), ліпень-жнівень 2021

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 357-70-27